# КУЛЬТУРА

ШТОТЫДНЁВАЯ ГРАМАДСКА-АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА № 29 (190), 9 — 15 ЖНІЎНЯ 1995 ГОДА. КОШТ 1000 РУБЛЁЎ




# У КАНЦЫ ТУНЕЛЯ — ГОРАД ЭДЭМ, або «БЕГ ПА ПЛОСКАСЦІ» ПРАЦЯГЛАСЦЮ Ў ШЭСЦЬ ГАДОЎ

*Цікава, да якіх высноў прыйшлі навукоўцы?*

*М.Р.*

*Гэтага чалавека цяжка знайсці на сваім працоўным месцы. Амаль немагчыма. Варта засесці за тэлефонны апарат і падоўгу абзваніваць кола знаёмых, каб натрапіць хаця б на яго след. Прасачыць ланцужок перасоўвання па сталіцы. І толькі. Але напачатку гэта нам затэлефанавалі ў рэдакцыю і папрасілі: "Напішыце аб ім!" Ужо пасля першай сустрэчы з пакуль што невядомым чытачу чалавекам я задаўся пытанннем: а дзе, дзе гэта сённяшняе ягонае пастаяннае месца працы ці, дакладней, якія яго асноўны род занятку? Толькі не падумайце, што ён з якіхсьці там новых рускіх ці, даруйце, беларусаў, да шэрагу якіх мы апошнім часам вельмі грэбліва ставімся. А ўвогуле, чаму б і не... толькі не з ліку тых, што ўваходзяць у звыклыя рамкі нашага разумення. Ён з ліку новых, чытай маладых, на пачатак самастойнага жыцця якіх сёння выпалі цяжкія выпрабаванні. Дасягненне мэты самарэалізацыі выбралі мастацтва, месца зносінаў з людзьмі — сцэну, мову — рухі, жэсты, пластыку свайго цела.*


*(Заканчэнне на стар. 3)*




Фота Генадзя ЖЫНКОВА

СЯРЭДЗІНА ТЫДНЯ

# СУПРАЦІЎЛЕННЕ НІЗКАПРОБНЫМ ВЫДАННЯМ

Незадаволенасць і нават абурэнне ў пэўных сацыяльных груп насельніцтва выклікалі ў апошні час асобныя выданні. На кніжным рынку з'явілася літаратура сумліўнага характару, нізкапробныя творы эратычнага накірунку. Як пазбегнуць такіх негатыўных традыцый у галіне кнігавыдання, даць чытачам больш навуковых кніг, класікі, падручнікаў для вышэйшай школы, — гэта і многае іншае было ў цэнтры ўвагі калегіі, што праводзілася Міністэрствам культуры і друку.

Калегія пастанавіла прызнаць, што тэматычнае планаванне і выпуск літаратуры не задавальняюць сёння патрэб насельніцтва ў сацыяльна неабходных выданнях , а ў асобных выпадках нават наносяць шкоду грамадству.

Нездавальняючай прызнана работа кіраўніцтва выдавецкіх арганізацый "Парадокс", "Издательский дом", "Петит", "Хата", рэдакцыі часопіса "Парус" па адборы і выданні літаратуры, а таксама адносіны кіраўніцтва выдавецтва "Современная литература" да міжнародных нормаў па аўтарскім праве. Калегія папярэдзіла кіраўнікоў названых выдавецтваў, што калі да канца III квартала 1995 г. не зменяцца адносіны да выпуску літаратуры, яны будуць пазбаўлены ліцэнзіі. Адзначаны недастаткова прынцыповы падыход выдавецтва "Мастацкая літаратура" да адбору твораў да выпуску ў свет. Кіраўнікам выдавецтваў рэкамендавана з усёй адказнасцю падыходзіць да планавання выпуску літаратуры, разглядаць праекты тэмпланаў на Саветах прадпрыемстваў, ствараць у творчых калектывах умовы па прадухіленні выхаду шкодных для чытача выданняў, рацыянальна спалучаць камерцыйны пачатак з задавальненнем духоўных патрэб грамадства.

Упраўленне выдавецкай і паліграфічнай дзейнасці абавязана ўзмацніць кантроль за выкананнем выдавецтвамі розных форм уласнасці Палажэння аб парадку выдачы суб'ектам гаспадарання спецыяльных дазволаў (ліцэнзій) на ажыццяўленне выдавецкай дзейнасці і іншых нарматыўных дакументаў, якія рэгламентуюць выдавецкую дзейнасць. У выпадку парушэння аператыўна ўносіць прапановы аб мерах спагнання: для дзяржаўных выдавецтваў — прыцягненне кіраўнікоў да матэрыяльнай адказнасці; для недзяржаўных выдавецтваў — прыпыненне іх дзейнасці ці пазбаўленне ліцэнзіі. Абавязаць недзяржаўныя выдавецтвы накіроўваць у Міністэрства штогадовыя справаздачы аб выпуску друкаванай прадукцыі. Разам з юрыдычным аддзелам Міністэрства і па ўзгадненні з Міністэрствам юстыцыі ў месячны тэрмін падрыхтаваць праект нарматыўнага акта (Указ Прэзідэнта, Пастанова Кабінета Міністраў), у якім прадугледзець комплекс мер па недапушчэнні негатыўных з'яў у выдавецкай дзейнасці.

Вырашана ўнесці ў Кабінет Міністраў прапанову аб устанаўленні акцызнага падатку на друкаваную прадукцыю, якая па змесце або афармленні носіць эратычны характар. З мэтай папярэджання парушэнняў міжнароднай выдавецкай практыкі ўнесці на разгляд Кабінета Міністраў прапанову аб далучэнні Беларусі да Бернскай канвенцыі аб ахове літаратуры і мастацкіх твораў. Паліграфпрадпрыемствам незалежна ад форм уласнасці неабходна няўхільна выконваць загад Міністэрства ад 15.03.93г. № 25 "Аб мерах па спыненні прапаганды парнаграфіі, культу насілля і жорсткасці ў сродках масавай інфармацыі і выдаючых арганізацыях рэспублікі". Кнігагандлёвым прадпрыемствам розных форм уласнасці не дапускаць набыцця за межамі рэспублікі друкаванай прадукцыі сумліўнага зместу.

Калегія Міністэрства просіць рэспубліканскую экспертную камісію па ацэнцы твораў літаратуры, мастацтва і публіцыстыкі, сродкаў масавай інфармацыі на наяўнасць у іх прыкмет парнаграфіі, культу насілля і жорсткасці больш прынцыпова падыходзіць да разгляду друкаванай прадукцыі, што дасылаецца на экспертызу.

# КОМПАС "КУЛЬТУРЫ"

- У Нацыянальным мастацкім музеі РБ **9 жніўня а 17 гадзіне** адбудзецца выстава расійска-амерыканскай студыі шаўкаграфіі з удзелам беларускіх мастакоў.
  **10 жніўня а 17 гадзіне** — адкрыццё выставы "І горы навокал яго. Іерусалім у малюнку і эстампе", у якой будуць паказаны творы мастакоў Ізраіля 70 — 80-х гадоў. Выстава прымеркавана да трохтысячагодзя Іерусаліма, яна будзе працягвацца з 11 жніўня па 4 верасня.
- **6 жніўня** у рэспубліканскай мастацкай галерэі (Палац мастацтва) адбылося адкрыццё выставы жывапісу з Германіі.
  **21 жніўня** — адкрыццё выставы карыкатурыста Андрэя Вільжо.
- **З 6 ліпеня па 6 жніўня** ў Доме Прыроды, што месціцца ў Траецкім Прадмесці адбывалася выстава Віцебскай школы жывапісу і графікі.
- **9 жніўня** ў Зэльве — адкрыццё пятага тэатральнага сезона паэтычнага тэатра аднаго акцёра "Зьніч", прысвечанага дню нараджэння Ларысы Геніюш. Будзе пастаўлены монаспектакль паводле твораў пісьменніцы. Выканаўца — лаўрэат рэспубліканскага фестывалю тэатраў-студыяў Галіна Дзягілева. У гэты ж дзень — набажэнствы ў царкве і касцёле Зэльвы, якія ўшануюць памяць Ларысы Геніюш. Падчас гастроляў тэатра гледачы ўбачаць спектаклі "Мне сняцца сны аб Беларусі" Я. Купалы, "Маленькі Анёлак" С. Кавалёва і "Выгнанне ў рай" Н. Раппа.
  11 жніўня а 19 гадзіне адбудзецца святочная імпрэза, якая падрыхтавана сіламі тэатра і мастацкіх калектываў Зэльвы.

# "СУЗОР'Е" НА ВУЛІЦАХ СТАРАЖЫТНАЙ НАУСЫ

Сярод удзельнікаў фальклорнага фэсту, які штогод адбываецца ў грэчаскім горадзе Наўса, што размешчаны за 130 кіламетраў ад Салонікаў, знаходзіўся і народны ансамбль песні і танца



"Сузор'е" восьмага будаўнічага трэста горада Брэста. Ансамблю ўжо даводзілася выступаць у розных краінах свету. Берасцейскія артысты прынялі ўдзел у дзесяці канцэртах у гарадах Науса, Арыдэя, Вергія. Усе нумары праграмы "Сузор'я" праходзілі на "біс". Асаблівую папулярнасць у грэкаў набыла наша "Лявоніха", шквал апладысментаў выклікала ў выкананні калектыву руская "Кацюша".

Арганізатары фэсту паклапаціліся, каб артысты з 12 краін адчувалі сябе ў гасцях утульна. Былі наладжаны вечарыны сяброў, артысты знаёміліся са старажытнай зямлёй Грэцыі, была праведзена разнастайная культурная праграма.

Па выніках фэсту ансамбль "Сузор'е" разам з калектывам з гішпанскай правінцыі Арагон быў прызнаны сёлета пераможцам. Ён занесены ў спісы лепшых самадзейных калектываў, што выступалі на фэстах фальклору ў Наусе, і ўшанаваны памятным залатым медалём.

**Фота Эдуарда КАБЯКА. БЕЛІНФАРМ**

# "АДЗІНЫ СПАДЧЫННІК" — ДЛЯ ВАЙСКОЎЦАЎ

Добры пачатак ваенна-шэфскім сувязям пакладзены ў калектыве 120-й Рагачоўскай гвардзейскай мотастралковай дывізіі. У госці да вайскоўцаў, якія сталі гледачамі спектакля "Адзіны спадчыннік", прыйшлі артысты Рускага акадэмічнага тэатра імя М.Горкага.

Арганізатары культурна-асветніцкай работы аднаго са славутых фармаванняў Узброеных сіл Рэспублікі Беларусь спадзяюцца, што і надалей сцэна Уручанскага Дома афіцэраў будзе неаднойчы прадстаўляць вайскоўцам і іх сем'ям летнія спектаклі беларускіх тэатраў.

**Кастусь СЕМЯНОВІЧ**

# МУЗЕЙ ЗАСТАЕЦЦА ДЗЯРЖАЎНЫМ

25 ліпеня пасля рамонту, які працягваўся паўтара гады, адкрыўся Дом-музей I з'езда РСДРП. Сёння экспазіцыя суправаджаецца гукавым тэкстам і паслядоўным уключэннем вітрын. У першыя два дні музей наведалі каля 500 чалавек, другая хваля наведнікаў чакаецца з адкрыццём новага навучальнага года. Спецыяльна для школьнікаў будуць праводзіцца тэматычныя выставы. Нягледзячы на камерцыялізацыю грамадства, уваход у музей застаецца вольным, сродкі плануецца здабываць цераз продаж сувеніраў, у памяшканні будзе пастаўлена скрыня для добраахвотных ахвяраванняў. Музей-мемарыял карыстаецца вялікай папулярнасцю ў замежных наведнікаў, хоць ён пакуль не ўнесены ў каталогі міжнародных турысцкіх агенцтваў.

За кароткі перыяд тут пабывалі дэлегацыі з Кітая, Германіі, Італіі, ЗША, Англіі. На думку дырэктара музея С.Сіманюкова, цікавасць да экспазіцыі сёння абумоўлена тым, што ідэалы застаюцца пастаяннымі, аднак мяняюцца шляхі да іх дасягнення.

Пэўныя палітычныя сілы патрабавалі перавесці маёмасць музея на свой баланс, з гэтай мэтай былі наладжаны пікеты. 1 жніўня ў музеі адбылася нарада з удзелам міністра культуры А.Бутэвіча, дырэктара Нацыянальнага музея гісторыі і культуры Беларусі І.Загрышава, саветніка прэзідэнта С.Посахава, прадстаўнікоў палітычных рухаў, дзе было вырашана пакінуць музей дзяржаўным. На працягу месяца будзе выпрацавана палажэнне па музеі, ствараецца грамадскі камітэт музея з прадстаўнікоў розных грамадскіх і палітычных арганізацый.

**Т.А.К.**
**Фота Генадзя ЖЫНКОВА**



# АПАНТАНАСЦЬ МАСТАЦТВАМ

Вялікую папулярнасць у Пінску мае зала арганнай музыкі ў адрэстаўраваным старажытным будынку. Сюды прыязджаюць з канцэртамі лепшыя арганісты, камерныя аркестры. Гучаць галасы вядомых выканаўцаў рамансаў, народных песень, оперных спевакоў.



А ўсё пачыналася з энтузіязму аматараў арганнай музыкі. Былы дырэктар пінскага камбіната будаўнічай індустрыі, а сёння пенсіянер Барыс Васілевіч Косцін шукаў арган у многіх краінах свету. Нарэшце ў Вільнюсе яму пашэнціла набыць выдатны інструмент амерыканскай фірмы "Аллен". Самому давялося ехаць за ім, дапамагаў усталёўваць. Зараз Барыс Васілевіч — пастаянны наведнік залы, актыўна дапамагае яго супрацоўнікам.

*На здымку: будынак, у якім гучыць арганная музыка.*

**Фота Рамана КАБЯКА. БЕЛІНФАРМ**

# У "АКОПЫ" — ПРАЗ ДАЎГІНАЎСКІ ТРАКТ

26 жніўня ў музеі-сядзібе "Акопы", які працуе ў вёсцы Харужанцы на Лагойшчыне, пройдзе Свята паэзіі — Спасаўскі кірмаш. Удзельнікі свята ўскладуць кветкі да помніка вялікаму паэту, агледзяць экспазіцыю музея Янкі Купалы, возьмуць удзел у адкрыцці фотавыставы Альберта Ціхановіча "Аб гэтых блізкіх мне, а цесных так мясцінах..." (Сцежкамі Янкі Купалы).

У гэты ж дзень святары асвецяць Купалаву крынічку, якая выбіваецца з глыбінь зямлі, як сімвал невычэрпнай паэзіі Янкі Купалы. А апоўдні, у амфітэатры, на зялёнай паляне, пачнецца паэтычна-музычны Спас, у якім возьмуць удзел вядомыя паэты, фальклорныя калектывы і артысты.

На працягу дня — гасцяванне ды гулянне, падарункаў выбіранне, частаванне, смакаванне, танцам, песняй паяднанне, кірмашова забаўлянне.

Дабрацца ж у вёску Харужанцы не так цяжка. Са станцыі "Кульман" ходзіць рэйсавы аўтобус Мінск-Янушкавічы 7.30 і 10.00. Ідзе аўтобус па Даўгінаўскім тракце, якому паэт нават прысвяціў радкі:

*Знаёмы гэты мне шлях*
*родны, —*
*Даўгінаўскі вядомы шлях.*

**Мікола ЧЫРСКІ**

МАСТЫХІН

# ФІЛОСАФ. ПАЭТ. МАСТАК.

*"Сярод цёмнай ночы,*
*Цераз сны пустыя*
*Заняпалі вочы,*
*Назаўжды астылі..."*

У галерэі сучаснага мастацтва "Шостая лінія" ў ліпені прайшла мемарыяльная выстава Аляксея Жданава (1948-1993) аднаго з найбольш прыкметных прадстаўнікоў мінскага андэграўнда канца сямідзесятых і васьмідзесятых гадоў.

Бунтарскі характар Аляксея праявіўся ўжо ў дзяцінстве: аднойчы ён надаў зусім іншы сэнс жэсту піянера-героя, які замахнуўся на ворага гранатай, адлупіўшы з надпісу "Марат Казей" на помніку апошнюю літару, за што яго выключылі са школы. Пасля трох курсаў універсітэта, дзе Аляксей вучыўся па спецыяльнасці "філасофія", яго выключылі па той жа прычыне — за нелаяльнае стаўленне да афіцыйнай ідэалогіі і савецкай улады. Служыў у страйбаце, потым працаваў вартаўніком, пісаў вершы. Ездзіў на "шабашкі", у тым ліку двойчы на Калыму, паўтараючы маршрут ахвяраў сталінскіх рэпрэсій.

Паводле ўражанняў ад гэтых падарожжаў была напісана "Паэма", спісы якой разам з іншымі вершамі хадзілі па руках і, вядома ж, трапілі ў КДБ. Аляксею давялося паспытаць долю многіх тагачасных дысідэнтаў: на пачатку васьмідзесятых ён быў змешчаны на некалькі месяцаў у вар'ятню з дыягназам "запаволеная шызафрэнія".

Неўзабаве пасля выхаду з бальніцы Жданаў, адзін з лепшых рускамоўных паэтаў Мінска, кінуў пісаць вершы: аднойчы яму падалося, што ўжо не здолее пераўзысці напісанае, ды і чытаць іх сваім знаёмым сталася небяспечным. У апошняе дзесяцігоддзе жыцця ім былі напісаны толькі паэма пра мутанта Сямёнава, некалькі ўрыўкавых філасофскіх трактатаў, у тым ліку аб дзвюх асноўных нацыях сусвету — "немцах" і "марсіянах" (абывацелях і рамантыках), а таксама — у сааўтарстве з Наталляй Татур — п'еса "Бабуля праездам", якая была пастаўлена на сцэне Рускага тэатра ў Таліне. Напрыканцы 1993-га, ужо пасля смерці Аляксея, у выдавецтве "Мет" выйшла кніга выбраных (магчыма, адзін з дваццаці) вершаў паэта.

З пачаткам "перабудовы" Жданаў прысвяціў сабе іншаму віду мастацтва — жывапісу ( зрэшты, асобныя "пачыркушкі" ён дарыў сябрам і раней). У складзе авангардных аб'яднанняў "Форма", "Плюраліс", "БЛО", а затым індывідуальна Аляксей удзельнічаў у шматлікіх выставах і перформенсах на радзіме і ў замежжы, у тым ліку ў серыі акцый па ажыўленні Казіміра Малевіча. Калекцыянеры, перадусім мінскія, ахвотна набывалі ягоныя карціны, але ніякага багацця за гэты кошт Жданаў не назбіраў, бо ўсе грошы траціў, асабліва ў апошнія гады, на застоллі з сябрамі і нават незнаёмымі людзьмі. Магчыма, таму на магіле ўжо паўтара гады няма нават прыстойнай пліты ( нельга выключыць і тую версію, што да гэтага мог прыкласці руку дух патурбаванага Казіміра альбо абражанага Марата).

Калі ў Аляксея з'яўляліся нейкія грошы, ён ледзь не прынцыпова адразу ж пазбаўляўся ад іх. Перад тым, як стацца мастаком, ён амаль увогуле не ўжываў алкаголю, вёў аскетычны лад жыцця, быў вельмі разборлівы ў выбары сяброў. Аднак жывапіс, відаць, запатрабаваў значна вялікшай напругі ад ягонага духу і цела, чым паэзія ў свой час. Перыяды інтэнсіўнай працы чаргаваліся з разгуламі, якія Жданаў тлумачыў тым, што павінен падмацоўвацца энергетычнай вадкасцю, якая на многае адкрывае вочы. Вельмі важнай для яго была энергетыка твора: лічыў, што карціна ўдалася, калі сам адчуваў у ёй моцны энергетычны патэнцыял.

На выставе ў "Шостай лініі" былі прадстаўлены ўсе перыяды творчасці Жданава. Яна пачалася з вершаў, якія ў цемры чытаў праз магнітафон сам Аляксей. Калі голас атух і запалілі святло, мы раптам сустрэліся позіркам з натоўпам партрэтаў улюбёных герояў Жданава — савецкіх людзей-мутантаў. Дзе-нідзе можна было ўбачыць таксама пейзажы мёртвага горада і загадкавыя трохмерныя аб'екты (зварныя канструкцыі, пакрытыя тоўстым слоем пылу — ледзь не радыеактыўнага).



Жданаў паказвае свет, у якім нармальнаму чалавеку ўжо няма месца. Усе людзі даўно сканалі, загінулі ў агні рэвалюцыі і вечнай мерзлаце Калымы, а тыя, што засталіся, безнадзейна муціравалі, амаль зусім страцілі чалавечае аблічча. Пільна, ва ўпор на гледача пазіраюць "людзі новай фармацыі" з перакошанымі сутаргай рысамі твараў і закамянелымі вачыма. Заўсёды павернутыя анфас, яны стаяць на фоне зорнага неба ці нежывых агнёў начнога горада-прывіду. Жданаў амаль заўжды малюе толькі галаву і верхнюю частку тулава: прыкладна столькі ж мы бачым звычайна ў люстэрку...



І ўсё ж Аляксея нельга назваць апявальнікам кашмару жыцця або паталагаанатамам савецкай рэчаіснасці. У многіх працах — як і ў вершах — шмат непадробнага гумару, карнавальна-маскараднага настрою. Нават цяпер наўрад ці хто можа ўпэўнена сказаць, твары ён маляваў або маскі (некаторыя "мутанты", дарэчы, маюць досыць моцнае падабенства са знешнасцю самога Аляксея).

На выставе быў паказаны перформенс Людмілы Русавай і Ягора Любімава "Мутантысловымаскі": гэтыя мастакі апранутыя ў перапэцканыя вапнай пінжакі і маскі персанажаў Жданава, прачыталі пяць ягоных ненадрукаваных опусаў. Па словах Люды, яна хацела вырваць выяву з плоскасці карцін і прымусіць яе крычаць. Пры гэтым у выставачнай зале ў целах уваскрэслых мутантаў матэрыялізаваўся дух самога Аляксея:" Маска з найдаўнейшых часоў была прадметам культу. Апранутая на твар нябожчыка, яна ўдзельнічала ў пахавальнай цырымоніі і была дзейсным сродкам магіі... Яна засланяла бачнае і паказвала нябачнае, адкрывала звышрэальнасць і рабіла яе даступнай... Цалкам нерухомая, няземная, незваротная, незабыўная, непазбежная, маска — як сама доля..."

Некаторыя са знаёмцаў Аляксея мяркуюць, што ён у першую чаргу філосаф, а ўжо затым паэт і мастак. Арыентуючыся на расійскую рэлігійна-філасофскую традыцыю пачатку стагоддзя, Жданаў спрабаваў сінтэзаваць яе з сучаснымі плынямі заходняй філасофіі, якая ставіць пад сумненне веліч Чалавека і Дзяржавы, а таксама непазбежнасць светлай будучыні. У пэўным сэнсе можна сказаць, што жывапіс гэта трэцяя мова Жданава, а паэзія толькі — другая, пры перакладзе ж з мовы на мову далёка не ўсё ўдалося захаваць. Зрэшты, і ў жывапісе, і ў вершах добра чуваць эпічную, быццёвую інтанацыю. "Мутанты" выглядаюць гэтак жа манументальна, як роспіс неўявімага храма ў гонар Апошняга Суда.

Паэт як ніхто ведае, чым ёсць дасканаласць, і пакутуе ад недасканаласці таго, што бачыць наўкола і ўнутры сябе. Магчыма, таму, як кажуць, Жданаў быў антыгуманістам: нікога не любіў, а сябе — менш за ўсіх. Усё жыццё асабліва ў апошнія гады ён мэтанакіравана займаўся самазнішчэннем. У Аляксея было хворае сэрца. Ён баяўся смерці, але не рабіў нічога, каб затрымаць яе. Прынцыпова не лячыўся. Аляксей наўмысна імкнуўся да стану, дзе б ён мог балансаваць паміж жыццём і смерцю, каб сузіраць наш свет неяк звонку. Аднойчы сэрца не вытрывала...

Творчасць Жданава, па вялікім рахунку, дасюль застаецца неўбачанай, непрачытанай, непрадуманай. Большасць мінскіх мастацтвазнаўцаў не лічыла яго мастаком. Афіцыйныя колы ставіліся да яго як да варожага элемента, ды і ў самім андэграўндзе ягоныя творы не кожнаму падабаліся. Аляксей быў вельмі ганарлівы. Крытыкаваць ягоныя карціны або вершы ў ягонай прысутнасці было немагчыма: ён быў разумнейшым і найбольш адукаваным, магчыма, за ўсіх сваіх сяброў і мог пераспрэчыць кожнага з іх, калі нават і сам разумеў, што піша недасканала.

Часта, асабліва ў апошні перыяд жыцця, Жданаў "сыходзіў у народ", агульнуючыся ледзь не з натуральнымі героямі сваіх твораў. Ён казаў, што гэта вельмі цікавыя людзі, да якіх трэба прыглядзецца. Старых сяброў побач заставалася ўсё меней. Распаліся авангардныя суполкі, кожны пачаў ладзіць свае праекты, у якіх Жданаву з ягоным дзікім жывапісам месца ўжо не было. Цяпер некаторыя кажуць, што ён сканаў за тры-чатыры гады перад тым, як яго паклалі ў труну. Закончылася "перабудова" — і тэматыка ягоных жывапісу і паэзіі сталася ўжо не такой актуальнай. Зрэшты, грамадству раптам сталіся непатрэбнымі ўвесь жывапіс і сур'ёзная літаратура...

Магчыма, ратуючыся ад адзіноты, Аляксей прыдумаў сабе двайніка: паэта-таксіста Юрыя Планера — вельмі мудрага чалавека, які сыпаў афарызмамі і быў героем шматлікіх анекдотаў, якія распавядаў сам Жданаў, бо пры ўсім сваім самалюбстве Аляксей быў чалавекам сціплым і любіў сам заставацца ў цені. Дарэчы, на выставе быў прадстаўлены "Партрэт Ю.Планера" — такога ж мутанта, як і астатнія. Зрэшты, адрознасць была: у твар-маску Планера ўманціравана невялікае люстэрка, каб глядач мог у ім убачыць сябе, сам жа Жданаў, значыцца, быў здольны ўбачыць сябе ў кожным чалавеку.

Выстава задумвалася і была здзейснена як першая спроба асэнсаваць гэтую шматзначную, шматвымерную асобу. Вялікай падзякі заслугоўвае калектыў аўтараў выставы, якая дазволіла гледачам сустрэцца з гэтым, надзіва таленавітым чалавекам, і, спадзяюся, з самімі сабой. Пра поспех сведчаць шматлікія водгукі часта "не ўсё зразумеўшых", але ўсё роўна ўдзячных наведнікаў галерэі. Наперадзе цяпер — вялікая праца па ўпарадкаванні спадчыны Жданава. Рыхтуецца выданне пасмяротнага каталога, у які ўвойдуць успаміны сяброў, артыкулы пра ягоную творчасць, рэпрадукцыі карцін, вершы, афарызмы і шмат іншага. Для выдання яго, зразумела, спатрэбяцца немалыя сродкі. Гэтаксама і для помніка на Паўночных могілках. Для тых, хто можа дапамагчы ў гэтай дабрадзейнай справе або падзяліцца ўспамінамі аб Аляксеі паведамляем кантактны тэлефон галерэі: 34-13-32.

**Юрась БАРЫСЕВІЧ**

# ЗАХАВАЛЬНІЦА СКАРБАЎ МАСТАЦТВА

Пайшла з жыцця, з мастацтва, з музейна-выставачнага кола Эці Захараўна Блішч, якая амаль 30 гадоў прарабіла ў Саюзе мастакоў і амаль 20 гадоў — галоўным захавальнікам Фондаў...

Яна была неверагоднай прыгажуняй. Цудоўныя нашы народныя мастакі В.Цвірка і А.Марыкс казалі, што сярод яе аднагодак не было жанчыны больш прыгожай. Яна была адорана талентам актрысы. І паступіла ў тэатральную вучэльню, паказаўшы толькі адзін эцюд. І сталася лепшай студэнткай. Сярод рою кавалераў найбольш пашчасціла Міхасю Блішчу, які потым стаўся мастаком. Пачалася вайна, і ў гэта ў першыя дні загінула яе маці з усімі сёстрамі і братамі. Толькі каханне Міхася Блішча, беларускага хлопца, што схаваў гебрайскую дзяўчынку ў сваёй вёсцы, выратавала ёй жыццё, а неўзабаве падаравала і двух сыноў — наўзамен сцэны, якая адыходзіла ад яе ўсё далей. Сцэнай сталася жыццё. Артыстызм і акцёрства заўсёды спадарожнічалі ёй. Яна іграла розныя ролі: то ўладалюбнай арыстакраткі, то пакорлівай працаўніцы. І тое і другое ёй удавалася і прымалася знаёмымі. Гэта давала Эці поўную разняволенасць і свабоду. Яна магла сказаць усё і ўсялякаму: ад міністра да грузчыка. Яна жыла нібыта ў двух вымярэннях — у сучаснасці (меней) і ў мінулым (болей). Неяк нечакана ледзь не ўсё засталося ў мінулым: дзяцінства, юнацтва, бацькі, сёстры, браты. Рана пайшоў з жыцця муж. Засталіся дзеці і... запаснік Палаца мастацтва. Ён і стаўся сутнасцю і сэнсам яе жыцця. Яна была сапраўдным Хавальнікам бясцэннага фонду беларускага мастацтва 60 — 90-х. Яна была непрадказальная, заўсёды спантанная, баялася міфічнай небяспекі, не прызнавала сапраўдных пагроз, апрача адной: тут супадалі вечная рэальная магчымасць і яе амаль фізічны страх страціць сваё месца, сваю справу, свой Палац. Гэта было для яе да смерці падобным...



Эці Захараўна была не проста хавальнікам, але і збіральнікам духоўных каштоўнасцяў. Магла стаяць насмерць, каб не дазволіць аддаць у падарачны фонд, а з яго — у дарунак заезджаму важнаму госцю тое, што, на яе думку, увасабляла лепшыя набыткі беларускага мастацтва. Аўтарытэтныя закупачныя камісіі часта ўхвалялі яе прапановы, а дэлегацыі, што ад'язджалі ў рэдкія замежныя паездкі, везлі з сабой скамплектаваныя ёю выставы. З яе меркаваннямі лічыліся дыпламаваныя мастацтвазнаўцы, да яе парадаў прыслухоўваліся вядомыя экспазіцыянеры. Яе ва ўсім вылучаў тонкі густ: свой сіні працоўны халат насіла як каралеўскую мантыю, а з твораў заўсёды выбірала лепшыя, цудоўна адчувала колер, беспамылкова атрыбуціравала творы (вызначала па почырку аўтара час стварэння з дакладнасцю да года). Яна ведала не толькі ўсё пра жыццё і творчую эвалюцыю мастакоў, але і лёс кожнага твора. Музейная "картачка руху" кожнага палатна захоўвалася ў яе памяці, як на дыскеце камп'ютэра. Пра ўсялякі аркуш, усялякую карціну або скульптурную кампазіцыю яна магла распавесці, на якіх выставах яны экспанаваліся і дзе віселі.

Яна любіла сваю Справу так, што нічым не магла яе замяніць. Яе духоўная смерць наступіла ў той момант, калі яе пазбавілі Справы і Сэнсу жыцця. Яна выйшла са свайго Запасніка і, ужо не азіраючыся, хутка пайшла да сваёй смерці. Яна сканала не ад старасці, не ад хваробы. Яна сканала ад гора. Яна атухала хутка, штодня ўсё болей, ужо не ўздымалася з ложка і толькі глядзела на маленькія зграбныя эцюды Міхася Блішча, што стаялі побач з ложкам паміж лекаў...

Была Эці Блішч чалавекам складаным, супярэчлівым, здольным на дзёрзкія ўчынкі і палохаючымся ўрача; партызанка, сувязістка баявой арміі, яна толькі праз 45 гадоў пасля вайны знайшла час афарміць дакументы і атрымаць пасведчанне ўдзельніка Вялікай Айчыннай; жыла ў беднасці і раздорвала жывапіс каханага мужа.

З Эці Захараўнай Блішч мы страцілі цэлы том гісторыі беларускага мастацтва, плеяды мастакоў, Палаца мастацтва. Застаўся ў памяці вельмі заслужаны дзеяч мастацтваў, нетытулаваны мастацтвазнаўца, назаўжды аддадзены сваёй Справе.

**Ларыса ФІНКЕЛЬШТЭЙН**




Алесь АРКУШ

# ІМУНАЛЁГІЯ ЛІТАРАТУРЫ, АБО ДЫЛЕМА ЭВАЛЮЦЫІ



## Разьдзел з кнігі "Дэфляцыя культуры"

Кожны літаратар піша свае творы адрозна — хто за шыкоўным "офісным" сталом, хто нагаворвае на дыктафон, хто седзячы на жалезным інтэрнацкім ложку. Звычка — рэч упартая. Аднойчы ўступіўшы з ёй у хаўрус, цяжка яе пазбыцца. Таму я імкнуся ня мець звычак, якія б тычыліся майго літаратурнага занятку. Працуючы над тэкстамі, я спрабую не ствараць пэўнай сыстэмы, не прытрымлівацца старых правілаў і схемаў. Тэкст, які занатоўвае літаратар (за сталом, на падлозе, у цягніку), ня ёсьць прадукт самога працэсу занатоўваньня. Пісьменьнік толькі ўзгадвае яго са свайго мінулага або будучага жыцьця. Нараджаецца тэкст без дазволу й жаданьня творцы. Літаратар можа толькі паспрыяць гэтаму таямнічаму нараджэньню — стварыць неабходныя абставіны, змадуляваць (як тэатральны рэжысёр) ланцуг патрэбных падзей, змясьціць сябе ў каталізатар-асяродзьдзе. Для гэтага не абавязкова кідацца ў вір жыцьця (уладкоўвацца на працу таксістам або пранікаць у крымінальную структуру), асабліва працуючы над тымі літаратурнымі творамі, якія не патрабуюць спэцыфічнай сюжэтнай канвы — паэзія, філязафічная, інтуітыўная проза, пачуцьцёвыя імпрэсіі. Дастаткова настроіцца на пэўныя развагі, думкі, пачуцьці, магчыма й з дапамогаю вонкавых раздражняльнікаў — кніг, мастацкіх рэпрадукцый, фільмаў, фотаздымкаў і г.д.

Я не люблю літаратурныя творы, у якіх нічога няма акрамя пазнавальнага навакольнага жыцьця. Я не лічу іх сур'ёзнай літаратурай. Навошта гэтае, няхай сабе й праўдзівае, капіраваньне рэчаіснасьці? (Распавядаць, як у спадара X склалася жыцьцё, чаму ён ажаніўся з У, а не з Z, чаму яго не палюбіла цешча, чаму ён звольніўся з працы й пачаў піць і г.д.). Камусьці, магчыма, падобны аповед можа падацца цікавым, а мне сумна, нават калі ў галоўнага героя ўсё добра і з жонкай, і з цешчай, і з працай. Такі твор можа быць прыдатны выключна для баўленьня часу (задаволіць цікаўнасьць — чым жа ўсё скончыцца?). Задачы сур'ёзнай літаратуры, як я разумею, іншыя — ладжаньне прыступкаў эвалюцыйнага развіцьця чалавека. Homo sapiens з кожнай сваёй перамогай над навакольным сьветам усё больш упэўніваецца ў хісткасьці свайго становішча. Кожная набытая навуковая веда толькі павялічвае абсяг распазнавальнай небясьпечнай хісткасьці. Усе навукова-сацыяльна-культурныя посьпехі чалавека, набытыя за стагодзьдзе, напрыканцы кожнага веку выклікаюць усеахопны крызіс. Неаспрэчныя ісьціны губляюць сваю неаспрэчнасьць, скідваюцца са сваіх пастамэнтаў аўтарытэты, пераглядаюцца навуковыя тэорыі, узьнікаюць новыя й гінуць старыя краіны — скрозь адбываюцца глябальныя зьмены, у тым ліку й у самім чалавеку. Літаратура (сур'ёзная) мусіць быць індыкатарам, які сьведчыць аб узроўні гэтых зьменаў, і маяком, які дапамагае чалавеку шукаць ратавальны шлях. Homo sapiens вельмі кансэрватыўны жыхар Зямлі, як, дарэчы, й сама Зямля. Па свайму жаданьню чалавек ніколі не пачне вакол ды ў самім сабе штосьці мяняць. Толькі пачуцьцё самазахаваньня штурхае яго да дзеяньня. У крызысным стане зьнікае сілавое поле стабільнасьці (бо набытыя чыньнікі — новыя абставіны — зьмяняюць былы раўнадзеючы вэктар) — сацыяльна-палітычная структурызацыя парушаецца й чалавек як бы застаецца без даху над галавой. Усе ягоныя адказы-аксіёмы на галоўныя жыцьцёвыя пытаньні робяцца недакладнымі або ўвогуле няслушнымі. Нарастае пачуцьцё трывогі, адбываюцца сацыяльныя й нават прыродныя катаклізмы, чалавек пачынае інтэнсіўна шукаць выйсьце зь небясьпечнай сытуацыі, ён робіць рэвізію ўсіх сваіх папярэдніх поглядаў і пазбаўляецца таго, што выклікае парушэньне стабільнасьці. Адбываецца трансфармацыя й ягонага сьветапогляду. Ён пачынае глядзець на сьвет іншымі вачыма, у сярэдзіне яго фармуецца новая шкала каштоўнасьцей, зьмяняюцца запатрабаваньні й жыцьцёвы рытм. Вось на гэтым "пляцдарме" і мусіць дзеіць літаратура.

Вызначэньне мейсца літаратуры (дакладней, увогуле культуры й мастацтва) у працэсе разьвіцьця чалавека (парадыгма зьменаў) залежыць ад адказу на падставовае пытаньне: што першаснае сярод "стымулятараў" эвалюцыі чалавека — запатрабаваньні навакольнага сьвету (пасыўная эвалюцыя) або ягоныя ўнутраныя (душэўныя, валявыя) поклічы (актыўная эвалюцыя). Напэўна, і першы, і другі від эвалюцыі мае мейсца ў чалавечай практыцы (аб чым сьведчыць вучэньне Рэрыха). Тое, што немагчыма прымусіць усё грамадства разьвівацца па схеме актыўнага разьвіцьця, мы ўжо ўпэўніліся на вопыце

(Заканчэньне на стар. 7)

***У пераважнай большасці тэксты гэтага выпуску "ЗНО" арганізаваныя сябрамі ТВЛ (Таварыства Вольных Літаратараў).***
***Дарэчы, ТВЛ цяпер рыхтуе міжнародную канферэнцыю "Літаратурны працэс: рэцыдывы пасттаталітарнай маргінальнасці", якая адбудзецца 4 – 5 лістапада ў Полацку.***

Людміла КОРАНЬ



# АВАНГАРД І ПАРАДОКС

## 1. АПАЛАГЕТЫКА

Ёсць тэорыя паскоранага развіцця літаратуры (С.Гачаў, 1964 г.), якая апісвае долю і літаратуры беларускай (В.Каваленка, 1975 г.): "/.../ дагнаць (спачатку хоць бы ў агульных і прыблізных рысах) перадавыя і развітыя літаратуры свету. У гэтым заключаецца творчы пафас беларускай літаратуры на працягу вякоў" (В.Каваленка). І цягам вякоў кожны раз выходзіць прыкладна адно і тое ж, а іменна: "Беларуская літаратура не магла ў той час (пач.XIX ст. — Л.К.) зраўняцца з рускай і польскай па багаццю мастацкіх дасягненняў і ўзроўню майстэрства, але яна была амаль роўнай ім па тыпу і характару эстэтычнага мыслення" (Тамсама).

Так-так... Самапачуванне беларускага літаратара зрабілася б зусім безнадзейным, каб гэтая, трэба сказаць, доказная і даволі гнуткая, тэорыя апісвала наша мастацтва вычарпальна.

На шчасце, яна справядлівая найперш для апісання плыняў, рухаў, суполак, — грамадскай літаратурнай свядомасці: "Літаратура, якая даганяе, /.../ павінна спяшацца наперад, услед за развіццём эстэтычнай свядомасці чалавецтва, каб не ператварыцца ў адсталую літаратуру, але гэтая спешка пры слабасці творчых сіл звязана з незавершанасцю ідэйна-эстэтычных з'яў... Тое, што было ўпушчана, у спрыяльныя часы вяртаецца, асвойваецца. /.../ але пройдзены перыяд усё роўна застаецца збедненым" (В.Каваленка).

Такім чынам, ігнараваць дасягненні суседзяў проста немагчыма. Мусім кожны раз даганяць. Але можна не толькі даганяць.

Мастацтва — таямніца. Генафонд нацыі здольны выштукаваць такую цудоўную анамалію, як геній, і той можа задыханы бег ператварыць у вольны палёт. Не паўтарыць, а толькі прыняць да ведама.

Чым большы талент, тым карацейшы "паўтарыцельны курс". М.Багдановіч жа не забыўся ў свой час падкрэсліць, што, беручы чужое, трэба даваць сваё, "а свайго, як мы бачым, мы давалі меней, чым маглі".

Жыццё, аднак, немагчымае як анамалія; яно нармальнае. Таму заўсёды мае рацыю плынь, таму ёсць вялікая праўда "маленькага чалавека", і таму "Тэорыя — сухая, дружа мой, а дрэва // Жыцця заўсёды пышна зеляне" (Гётэ, пер. Сёмухі).

## 2. КРЫТЫКА

Чысты авангард для нас — інфантыльная з'ява. Мы маглі і абавязаны былі з ім знаёміцца своечасова, ва ўсе папярэднія, асабліва ў "застойныя" гады. А ўжо культура наша яго перажывала безумоўна. Часамі — па вядомых прычынах — у рэдуцыраванай форме. І калі не праз сваіх наватараў, то праз суседніх, блізкіх і далёкіх, і вельмі далёкіх.

Між тым малады беларускі авангардыст найчасцей не заўважае гэтага. Наш авангард у вялікай ступені варварскі, бо пачаўся з таго, што назваўся піянерам, узяўся вынаходзіць нязнана-новыя шляхі. Такім чынам адно была прадэманстравана сапраўдная падсвядомая наша самаідэнтыфікацыя: савок без роду і племені, а зусім не нашчадак пагвалчанай некалі Еўропы. (Заўважым, як усё гэта цалкам натуральна! Каб не сказаць — непазбежна.) Напрыклад, як сапраўды смелыя і новыя, у нас друкуюцца проста бескультурныя опусы пра любошчы І.Сідарука, або забаўныя эпатажныя вопыты на фалічныя тэмы С.Адамовіча ды Ю.Гуменюка, або феерверкі з абсэсій ды фрустрацый таго ж Ю.Гуменюка. Падобныя "адкрыцці" функцыянальна зусім аналагічныя элементарнаму рамантызму якіх-небудзь наіўных каляпершацветаўскіх дзяўчатак. Калі ўжо гэтак расшпільвацца, дык, пэўна, і зробіць-такі наша бязрыб'е з любога няўклюды і рыбу, і ва ўсякім разе рака. Гэта — спакуса.

Давайце ж завышаць крытэрыі, а не вульгарызаваць структуралізм такім чынам, каб абвясціць усю беларушчыну аб'ектыўна неразвітым кантэкстам, які мы нібыта мусім развіваць праз таптанне на збітых, патэнцыяльна пустых ужо месцах.

Ці не робіцца ў нас папулярнаю хвароба на блізарукасць паводле авангарда. Мы трымаем яго ля самых вачэй, і ён засціць нам увесь далягляд. Насамрэч авангард па сваёй прыродзе не можа быць у беларускім, нават у славянскім кантэксце глабальнай з'явай. І не тое што глабальнай, а хоць бы дастаткова універсальнай або рэпрэзентатыўнай, каб адпавядаць нашым духоўным патрэбам. Гэткая ўжо наша ментальнасць, яна склалася гістарычна, і тут нічога не паробіш. Мы з тых нацыяў, якія развіваюцца катастрафічна, а не эвалюцыйна. Любы значны эстэтычны этап дасюль у нас быў роўны мастацкаму выбуху і меў інтэнсіўную трагічную (між іншых) афарбоўку. А ўсё, патэнцыяльна здатнае да самадастатковага гарэзавання, штукарства, гульняў, — геданістычных або ёрніцкіх, — з цяжкасцямі знаходзіла сваю нішу ў нашай культуры. І якою б салідкаю гэтая ніша ўрэшце ні аказвалася, яна ўсё роўна была і будзе на перыферыі беларушчыны. Ва ўсякім разе да таго часу, пакуль беларуская культура не перажыве сваёй натуральнай, ад спраўджанасці (а не праз генацыд) дэструкцыі. Пакуль жа існуе нацыянальна-культурная патрэба ў самаўсведамленні і самасцвярджэнні, змястоўнасць будзе запатрабаваная безумоўна больш, чым чыстая інтэнцыя.

## 3. ПАРАДОКС

Наша літаратурная сітуацыя сёння — парадаксальная. І парадокс гэты этычны: ёрніцтва і цынізм, экзістэнцыйны тупік постмадэрнісцкай эпохі дысаніруюць з патрэбамі нацыі.

У нас папулярная ідэя С.Дубаўца пра тое, што беларуская культура традыцыйнага кшталту не толькі архаічная. С.Дубавец у 1993 годзе канстатаваў смерць беларускай культуры, бо яна нібыта зацыкленая на сацыяльных праблемах (адраджэнскіх), а значыць, і на адпаведным эстэтычным, моўным, мысленчым узроўні. У той час як (цытую жартаўлівага В.Акудовіча) "за які рог ні пасунешся, адусюль постмадэрнізм прэ насустрач", і ў той час як эпоха Вялікага Рамантызму — айчына нацыянальнага адраджэння — даўно пакінула цывілізаваныя абшары.

Аднак гэты парадокс для нас далёка не новы, і тым больш ён не азначае аніякай смерці беларускай культуры. Больш таго: ён для нас традыцыйны.

Наша класіка, ад Купалы і Гарэцкага да Танка і Быкава, заўсёды мусіла вырашаць адраджэнскую задачу сцвярджэння беларуса, беларускага светабачання як задачу не архаічную, а сучасную ў поўным сэнсе гэтага слова, — нестандартна-індывідуальную, мадэрновую. Вялікі Купала, напрыклад, быў не проста вялікім рамантыкам, але і сімвалістам, і дэкадэнтам, і, галоўнае, творцам новай беларускай мовы і новага беларускага мыслення. І сёння перад беларускай культурай стаіць усё тая ж звышзадача: патрабуюцца з'явы, кангеніяльныя беларускай класіцы.

**P.S.** На маю прыватную думку, авангарднаю з'явай у нас стала паэзія Славаміра Адамовіча. Ён найменш прадказальны ў сваіх тэкстах; яго паэтычную інтанацыю можна назваць анармальнай (гл. кн. "Зямля Ханаан", 1993 г.). І ён умее быць бязлітасным да натуры так, як гэта ўмее толькі авангард.

**P.P.S.** Засталося адно прыгадаць, што Вялікі Авангард быў сапраўдным монстрам. Не хадзіце, дзеці, да яго проста пагуляць...






Вінцэсь Мудроў

# КРЫК У ГАБІНЭЦЕ

## Урывак з новага аповеду



Пасьля залевы сонца паліла па-чорнаму і ў залі разнасьцежылі вокны. Пахі цёплага асфальту, прывялай травы, таполевай лістоты завісьлі ў паветры, перамяшаліся з пахамі парфумы, жаночага поту, і дыхаць стала зусім цяжка.

— Ну, хто наступны? — млявым голасам запытаўся Першы, адною рукою перабіраючы паперы, а другою паслабляючы вузел гальштука.

Паслабіўшы вузел так, што сталі бачныя сівыя валасы на грудзіне, Першы зірнуў з-пад ілба ў канец залі й запытальна выдыхнуў:

— Таварыш Мурленя?

Усе разам аціхлі, гудлівы чмель, што ўляцеў быў у расчыненае вакно, плюхнуўся на штору й запанавалая ціша надала моманту элементы злавеснай урачыстасьці.

На мінулым тыдні Мурленя езьдзіў у Віцебск на нейкія спаборніцтвы, патрапіў там у выцьвярэзьнік, і цяпер увесь партыйна-гаспадарчы актыў наструнена чакаў — як адаб'ецца гэтая падзея на ягоных паводзінах. Старшыня спорткамітэта, падхапіўшыся на ногі, зірнуў на Першага затуманенымі ад грамадзкіх турботаў вачыма і, ускудлаціўшы непаслухмяны віхор, з камсамольскім імпэтам заварушыў магутнай сківіцай.

"Ані ў знак... Хаця б сумеўся, сволач..." — падумаў Макар, скоса пазіраючы на Мурленеву сківіцу. Важкая й круглявая, што той жарон, сківіца хадзіла ўбокі, ільснілася на сонцы, малола нейкую несянеціну пра спартовыя посьпехі таварыства "Ураджай".

Што яму будзе, таму Мурленю... Зяць дырэктара базы... Гэта Хаміцкі патрапіў у мыцельнік, дык усю душу, небараку, вытрэсьлі", — апанаваны такімі думкамі, Макар уявіў на хвілю — што б было, калі б у выцьвярэзьнік убіўся не Хаміцкі, а ён сам, і па целе ягоным пабеглі халодныя мурашкі. Мурашкі беглі ад патыліцы да хвастца й давялося нават зварухнуць азадкам, каб пераканацца, што пад ім не мурашнік, а райкамаўскае крэсла.

Крэсла рыпнула, чмель узьняўся ў паветра, а Першы, перапыніўшы Мурленю, запытаў:

— Вы штосьці хацелі сказаць, Макар Іванавіч?

Пытаньне прагучала зьнянацку, Макар не пасьпеў нават уцяміць — што да чаго, замармытаў штосьці ў адказ і па тым, як скасавурыўся Першы й як нэрвова заляпаў алоўкам па стале, можна было зразумець, што ён нечым незадаволены.

— ...За справаздачны пэрыяд падрыхтавана: значкістаў ГПА — 48 чалавек... — абудзіўся аціхлы было старшыня спорткамітэту, але яго зноў перапынілі.

— Таварыш Мурленя, а ці не маглі б вы сказаць, як рэалізуюцца талёны на харчаваньне, якія атрымлівае ваш камітэт? — задаўшы гэтае пытаньне, загадчыца гарана Сьцефурак адкінулася ў крэсьле, чмель зь дзіўнай для яго хуткасьцю пачаў наразаць колы вакол мурленевай галавы, а алавік у руцэ Першага пакінуў стукаць і застыў у паветры.

Іншым бы разам Макар расхваляваўся, пачаў бы сябе ўпікаць за тое мармытаньне: трэба ж было перапыніць Мурленю, задаць якое пытаньне, але сёньня на такія перажываньні ён быў папросту нядатны.

Мурленя зашамацеў паперамі, рыхтуючыся годна адказаць загадчыцы, мімаходзь баднуў галавой, адбіваючыся ад чмеля, і жартаўлівым голасам прамовіў:

— Ці не выгнаць гэтую заразу?

І хаця Мурленя меў на ўвазе пракудучмяля, усе разам паглядзелі на Сьцефурак, і тая, гэтак жа, як свойчас Макар, заклапочана заезьдзіла на азадку.

Актыў заварушыўся, зашаптаўся. Першы стукнуў алавіком па графіне, а Фаіна



Рыгораўна Сьцефурак, прыхапіўшы са стала тэчку з надпісам "На подпіс", пачала махаць ёю ў паветры, выганяючы з залі абрыдлую жамяру.

Нарада доўжылася тры з паловаю гадзіны. За гэты час шафёры, што прывезьлі ў райкам старшыню калгаса "Азяркі" й дырэктара саўгаса "Азярышчанскі", — Даўбня й Марыніч выпілі чатыры пляшкі "чарніла", мужык загадчыцы гарана, Мікола Сьцефурак, прывёз дахаты й разгрузіў ля плоту машыну крадзеных дошак, у раённай бальніцы — упершыню за два гады Пяцігодкі якасьці — нарадзілася двойня, зямля крутнулася на колькі там градусаў, і выгінасты цень на яе паверхні прапоўз ад Далёкага Усходу да сіняга Байкала.

Усё ішло сваім, загадзя вызначаным ладам: круцілася зямля й сьвяціла Сонца, нараджаліся двойні й лёталі чмялі, краліся дошкі й пілося "чарніла" й заядалася нясьпелымі ранетамі, і сакавітае чвяканьне ўперамешку з прыцішанымі шафёрскімі галасамі ўрывалася ў разнасьцежаныя вокны.

Макар сядзеў ля вакна й чуў, як кіроўца Марыніч, бразнуўшы дзьвёркаю "уазіка", мацюкнуўся і, дажоўваючы яблык,прамовіў:

— Раней раз на месяц зьбіраліся, а цяпер штодня балбочуць, курвы... — Вадзіла казаў яшчэ нешта, але словы ягоныя пакрыў гаўклівы кашаль. Старшыня "Азяркоў", Мішка Мандрык, які сядзеў побач, нечакана закашляўся, зашоргаў нагамі па падлозе, а паслабіўшы па прыкладу Першага квяцісты гальштук на шыі, голасам гогалеўскага мерцьвяка прасіпеў:

— Ду-ушна!

У залі ізноў заварушыліся, зарыпелі крэсламі, графін чарговым разам дзынкнуў, а

---

Алена НІЯКОЎСКАЯ

# ЗА СПАЧЫН НЕНАРОДЖАНЫХ...

## (аб кнізе Вінцэся Мудрова "Гісторыя аднаго злачынства")



Можа стварыцца ўражанне, што я крыху спазнілася з гэтым выступам. Бо Вінцэся Мудрова апісалі, здаецца, усе, хто мог і з усіх бакоў (гл. "Крыніцу № 4). Але, мяркую, што ёсць яшчэ нейкія вымярэнні творчасці гэтага сучаснага празаіка. Так, усё, што напісана аб ім — слушна, дарэчы. Але, на маю думку, трохі не тое гаворыцца, панове.

Апошняя кніжка Вінцэся Мудрова адлюстроўвае, як і ўся ягоная творчасць, даволі кароткі, але ёмісты гістарычны перыяд — сутаргі канаючай сацыяльнай сістэмы. Паказана гэта на зрэзе ментальным, дзе больш за ўсё праяўляецца заблытанасць светаадчування і светаўспрымання. Задача Мудрова — ахарактарызаваць сацыяльнае быццё, час, прастору, дзе галоўны "сістэмастваральны элемент" — Зло. Так, Зло, што нарадзілася з асаблівасцяў супольнага жыцця, сталай недастачы яго сродкаў. Мудроў сочыць, як сацыяльнае Зло вызваляе нялюдскія інстынкты "асобна ўзятага чалавека" ў "асобна ўзятай краіне", у яе замкнёнай прасторы, са своеасаблівым часам, дзіўным быццём, скажонымі вартасцямі...

Ёсць такі метад у стасаванай сацыялогіі — "уключанае назіранне". Гэта значыць, што аўтар як бы прысутнічае ў з'явах, але не дзейнічае. Пазнаўшы рэчаіснасць як Зло, Мудроў дыстанцыруецца ад асяроддзя, разглядаючы сваіх герояў нібы праз павелічальнае шкло. Зразумеўшы дзіўную спецыфіку грамадства, аўтар адхінаецца ад гэтага замкнутага ў часе і прасторы абсурду.[1] Дыстанцыя невялікая: з яе можна нават убачыць "чырвоны пісяг на носе бібліятэкаркі Забаронькі".[2]

Мудроў смуткуе, што так недарэчна, па-дурному жыве лепшае Боскае стварэнне — чалавек. Паслухайце, хто гэта казаў, што ў Мудрова — "добры, мяккі гумар"? У яго тое, што яшчэ ў нашым 10 "А" класе называлася "тихий ужас — громкий смех". У ягонай "няўтульнай жоўтай яснасці" ўсё раптам робіцца пачварным. Менш за ўсё хачу прыляпіць Мудрову нейкую "этыкетку", але ягоная творчасць — гэта экзістэнцыяльны вокліч, усвядомлены страх, што кашмарная рабінзанада грамадства можа доўжыцца... Мудроў занепакоены, што стыхійная псіхафізіялагічная энергія супольнасці з перакуленай шкалой вартасцяў — вельмі разбуральная. Што яе ўтаймаванне без папярэдняга пазнання, без выхавання праз блізкія ўсім вартасці — будзе патрабаваць "саркафага", мацнейшага за чарнобыльскі. Дарэчы, забітыя нацыянальныя культуры.— ці не "саркафаг" гэта, пад якім ідзе распад нацыянальнага рэчыва? Здаецца, жыццё ў такім сховішчы й паказвае Вінцэсь Мудроў.

З "добрым гумарам" аб гэтым цяжка пісаць. Усё адно атрымаецца гратэск як спалучэнне камічнага з жахлівым. У Мудрова — сапраўдны драматызм жыцця — без традыцыйна-апісальных зваротаў, без знаёмых інтэрпрэтацыяў, без экскурсаў у гістарычнае мінулае, без ідэалу будучыні. У яго — беспасрэдная праўда, часам натуралістычна жорсткая. І піша ён для сябе, свайго пакалення... Для гісторыі.

Героі Вінцэся Мудрова — часцей за ўсё, як і аўтар, людзі маладыя. Непасрэдны погляд — прывілей маладосці. Як і шчырасць. Героі Мудрова павінны прагаварыць, праплакаць, праспяваць страшную праўду аб сабе. Яны не могуць хлусіць, бо няздольныя прымірыцца з умовамі жыцця, хаця й не могуць (можа таму й не лгуць) наблізіць сваё пазнанне да рацыянальнага разумення. У душах гэтых герояў — рэшткі веры, што ёсць нешта такое, дзеля чаго варта жыць. Але — як жыць? І пытае сябе Ванька Бянькоў: "Ну чаму, чаму я такі?"[3] Чаму ён не можа радавацца, кахаць, мець асэнсаванае жыццё? Хто яму адкажа?

Героям В.Мудрова ўласціва архаічнае, "рэліктавае" пазнанне. Непасрэднае, суцэльнае, спантаннае. Асабістыя ўражанні — толькі нейкая частка, нейкі працяг гэтых працэсаў.[4] Тут чалавек прыпадобнены да сацыяльнага асяродздзя, як у першабытнасці — да роду, племя, Сусвету. Але пазнанне чалавека першабытнага — багацейшае за пазнанне герояў Мудрова, бо апошнія "замураваныя" ў вельмі спецыфічнай сацыяльнасці. Растопленыя ў ёй, яны не маюць выйсця да чалавецтва і да Сусвету. Героі Мудрова: Ванька Бянькоў, Лёшка Мандрык, іх сваякі і знаёмыя ("Гісторыя аднаго злачынства"), журналіст Сцяпан і ягоны суразмоўца — стары дзядок ("Міша з прастрэленым вухам"), дзяўчынкі Люська ды Маша (Дзень міру") не набылі чалавечай "рэакцыі адмаўлення" ад Зла і ад усяго таго, што не адпавядае культурніцкім стэрэатыпам, бо іх, гэтых стэрэатыпаў, у іх папросту няма.[5] І пазнанне свету ў гэтых людзей — выключна пазнанне "злой праўды аб свеце", пазнанне здрады, прадажнасці, хабарніцтва, абыякавасці да ўсяго, апроч чыста фізіялагічных патрэбаў. А цяжкія, незразумелыя ў сваіх мэтах заняткі, якія нельга назваць працаю! Алкагалізм. Бруд. Грубыя, жывёльныя гульні моладзі. Заціраецца граніца паміж дазволеным і недазволеным, смяротнаграхоўным. Абясцэньваецца не толькі чалавечая годнасць, але й само жыццё. "Фізіялагічныя нарысы" гэтага існавання цяжка цытаваць. Вінцэся Мудрова трэба ўважліва чытаць. Тое, што ён піша, — яно ж з намі ўсімі было і, бадай, не загінула. Казаў жа некалі Ж.-П. Сартр: "Лёсу няма ў сучаснасці. Лёс прыходзіць з мінуўшчыны..."

Дзейнасць герояў Мудрова — пераважна рэпрадуктыўная (у лепшым выпадку), альбо так званая "дзейнасць нязгоднасці". Людзі працуюць абы затрымаць на нейкім больш-менш "нармальным" узроўні асабістае жыццё.[6]

Падвойнае жыццё, падвойнае бачанне, падвойная перспектыва... Мудроў наўмысна сутыкае абодва бакі існавання сваіх герояў: пад салодкі магнітафонны тэнарок, каля стэнда "Новае ў жывёлагадоўлі", п'яна лаецца былы "кароль аршанскай зоны"; у клубе паказваюць кінахроніку аб візіце савецкай партыйна-ўрадавай дэлегацыі ў Балгарыю; гледачы — п'яныя кабеты й мужыкі — занятыя тым часам спрэчкамі, дзе яшчэ дастаць гарэлкі.

Жыццё прымае амаль выключна фізіялагічныя формы. Гэта й акрэслівае сацыяльную прастору, у якой дзейнічаюць героі Вінцэся Мудрова. Якія ж падзеі й прадметы гэтую прастору арганізуюць?

Прыгадаю навелу "Дзень міру" (з тае ж кнігі "Гісторыя аднаго злачынства"). Паміж акволеўшым дзедам, нудным голасам хворай настаўніцы, раздушанымі прусакамі і недакуркамі жывуць мілыя дзяўчаткі — што з іх будзе? Мудроў глядзіць на ўсё нібы ўпершыню. Такім жа "свежым вокам" глядзіць часам на гэты дзіўны свет журналіст Сцяпан Жук (навела "Міша з прастрэленым вухам"): "І як тут людзі жывуць?" Але пасля чаркі... "хата дзедава ўжо не здаецца такой страшнаю".

У апавяданнях Мудрова прастору арганізуе шчыльнае быццё прадметаў, людзей, падзеяў. Аўтар вельмі дакладны ў сваіх апісаннях-пераліках: "Усё было на месцы: столь, ходнік, чэзлая герань на падаконні, кніжная шафа з поўным зборам твораў; адсутнічаў толькі сейф, які стаяў у куце".[7]

У гэтай дзіўнай прасторы — свае войны, катастрофы, катаклізмы, свае важныя падзеі, свае героі: "Ля крамных дзвярэй — цэлая вайна"...[8] Змакрэлыя, раз'юшаныя людзі душацца ў чарзе па грэчку. "...Стогалосы лямант і звон разбітага шкла. У ГУМе давалі нейкі тавар". "Зноў у гарнізонным цюль давалі"...[9]

У гэтай прасторы нават нараджэнне і смерць успрымаюцца як рэчы будзённыя.

Чалавечае жыццё ў творах Мудрова — цесна збітае: людзі сапуць, керхаюць, рагочуць, плачуць, п'юць, ядуць, задавальняюць фізіялагічныя патрэбы на нейкім малым лапіку, ненавідзячы адзін аднаго, зайздросцячы, б'ючыся паміж сабой. І ўсё гэта — на тле знішчанай прыроды, пустазелля на палетках, сухіх зараснікаў атручанай алешыны... Усюды — і ў бруднай вёсцы, і ў смуродзе гарадоў — таўкуцца людзі са сваімі мізэрнымі праблемамі, нікчэмнымі размовамі, звычнымі, будзённымі няшчасцямі, кволай, нясмелай радасцю. Гэтая дзіўная прастора мае, бадай, толькі два вымярэнні: адно — сапраўднае жыццё, другое — фармальнае, знешняе, якое час ад часу праяўляецца голасам рэпрадуктара, стэндам, лозунгамі, сустрэчамі з ветэранамі, удзелам у "мерапрыемствах". Магчымасць пад'есці й выпіць — радыкальна зменьвае вартасныя

Мішка Мандрык, выдаўшы шэптам мудрагелістую тыраду, першымі словамі якой былі: “Выганю да д’ябла”, выцер канцом гальштука потную лабаціну.

Гадзіньнік на сьцяне паказваў палову шостай.

Пры Налівайку акурат такім часам жанчыны пісалі цыдулкі, просячы адпусьціць іх — ці то ў паліклініку, ці то ў яслі па сына, цяпер жа ніхто нічога не пісаў, і Макар, памружаўшыся на апалыя стрэлкі гадзіньніка, зь нейкай няўцямнай трывогай згадаў тую пару, калі ён хадзіў на райкамаўскія імпрэзы як на сьвяты. Яму нават здалося, што было гэта Бог ведае калі: ён нават паварушыў пальцамі, рахуючы дні й тыдні, а налічыўшы дваццаць адзін дзень, ня даў веры сваім падлікам.

* * *

Раніцаю, прачнуўшыся а восьмай, ён любіў хвіліну-другую палашчыцца ў пасьцелі, любіў пазяхнуць, пацягнуцца, пачухаць жарсцьвяныя валасы на пахвіне й толькі тады падымаўся на ногі. Раней гэтага часу Макара не маглі абудзіць ні цвырканьне вераб’ёў за вокнамі, ні лаянка суседзяў за сьценкай, ні сонца, што мела паганую звычку лезьці ў вочы.

Тае раніцы ён прачнуўся а шостай.

Наўкол было ціха: суседзі яшчэ спалі, вераб’і недзе лёталі й сонечны прамень ня лез у вочы, а сьветлаю плямаю ляжаў ля ног, ліючы лагоднае цяпло на аголеную лытку. І ўсё ж такі ён прачнуўся, пачухаў потную пахвіну й уздыхнуў, прымусіўшы мірыяды пылінак замітусіцца ў сонечным сьвятле, зрабіўшы яго жывым і амаль адчувальным на дотык, і ад таго раеньня ў Макара закружылася галава й сон зьляцеў з павекаў.

Ён адразу ж устаў, пайшоў, хапаючыся за сьцены, у прыбіральню, а ўбіўшыся ў цёмны катух, доўга стаяў там, абапёршыся локцем на халодны стаяк.

Такімі хвілінамі, калі вушы поўніліся бадзёрым-цурчэньнем і ніз жывата працінаў лёгкі халадок, Макар міжволі згадваў мінулую п’янку й затуманеная вінным чадам, але чуйная й чэпкая на дэталі памяць яму ніколі ня здраджвала, ды гэтым разам пахмельны чад выпетрыў з галавы рэшткі памяці й ён ня мог узгадаць: як там усё было, з кім даехаў да горада і як наогул патрапіў дахаты.

Але адна згадка — няўцямная, як сон і няўлоўная, як водар парфумы, усё ж цьвеліла сьвядомасць... Учора ўвечары ён танцаваў з Данутай... Макар заплюшчыў павекі, намагаючыся вярнуцца ў зманлівы сьвет учарашняга вечара, і пакінуты без нагляду струмень стоена зашамацеў па падлозе. Не разьнімаючы павекаў — каб не спужаць, не разьвеяць шчымлівай згадкі — ён паспрабаваў на слых выправіць становішча, але ня даў рады й давялося прымружыцца, выглядаючы унітаз, а потым шукаць яго спачатку левай, а потым правай нагой.

Рука ўхапілася за фаянсавую гіру, бачок над галавой здушана керхануў, завыў, як той воўк перад сканаьнем, і ў гэтым шалёным, дагэтуль нечуваным выцьці Макару выразна пачуўся ягоны ўласны голас. Нават ня голас, а роспачны крык, які вырваўся з прапітай глоткі дзесьці непадалёку й які, скалануўшы каналізацыйныя трубы, суціх, заглушаны аднастайным пошумам вады.

Звычайна людзі не пазнаюць сваіх галасоў — яны ім здаюцца чужымі, але тут ня столькі вуха, колькі сама душа Макарава пачула той лямант, і Макар ужо гатовы быў крыкнуць штосьці самому сабе ў цёмную зеўру унітаза, ды ня крыкнуў: выпусьціў паветра і, не абабіўшы апошніх кропляў, выйшаў з прыбіральні.

Праз хвіліну, падпальваючы нягнуткімі пальцамі фаерку пад чайнікам, ён яшчэ раз прыслухаўся да пошуму вады ў прыбіральні й з сардэчным клёкатам у горле прамовіў:

— Дапіўся, бляха.

Чорныя мятлікі гэтым разам ня лёталі ўваччу, галава амаль не балела, а вось душа... душа заходзілася ад сьвербу, трымцела ў грудзіне, варушылася ў страўніку, а калі чайнік закіпеў-засвістаў на высокай ноце, раптам схаладнела, сьціснулася ў камяк і зашылася пад драбы.

Чайнік сіпеў ня так як раней — адчайна, раскоціста, і сярод гэтага раскоцістага сьвісту Макару выразна пачуліся нечыя галасы. Гаварылі двое — мужык і баба. Ён нават разабраў словы, сказаныя мужыком — штосьці накшталт: — Адпраўлю ў Акадэмію — і, прыкруціўшы ручку пліты, пацёр дрыжачай рукой тое месца, куды, па ягоных меркаваньнях, забілася ягоная дарэшты ўлякнутая душа.

Насланьне не адпускала й пазьней, калі ён чысьціў зубы й галіўся. Электрабрытва “Харків” — старая, з надтрэснутым корпусам, гудзёлка, якая звычайна працавала з натугаю й ня столькі галіла, колькі дзерла шчаціньне, зумкала, як цыркулярка, а калі Макар паднёс яе да шчакі, — нібыта папярхнулася й немым голасам завішчэла: — Забудзь мой нумар, жывёліна! — Электрабрытва высьлізнула з рук, стукнулася аб край ракавіны, завісла на шнуры й толькі тады загула ў сваім звычайным тэмбры.

З ваннай Макар выкуліўся, трымаючыся рукамі за сьцены. Таямнічыя галасы яго не на жарты ўсхвалявалі й ад таго хваляваньня пот пацёк з-пад пахаў і ногі зрабіліся ватнымі і нягнуткімі. Да таго ж душа Макарава, якая дагэтуль варушылася недзе пад драбамі, падступіла да горла, і ён адрывіста ікнуў. Абапёршыся на дзьвярны вушак, Макар ікнуў другім разам: зычна, ядрана, а згледзеўшы свае штаны, якія віселі на люстры, ікнуў яшчэ раз — цяпер ужо зусім па-вар’яцку, страсянуўшы пры гэтым друзлым чэравам.

Штаны зьлёгку варушыліся ад проймы й гэта стварала ўражаньне, што ў пакоі нехта засяліўся. Дрогкаю рукою ён зьняў штаны з кандэлябры, упіхнуў левую, больш гнуткую нагу ў правую калошу ды зноў скамянеў, пачуўшы суседавы храп за сьцяною.

“Дапіўся... да глюкаў дапіўся... Што ж цяпер будзе? Каму я такі патрэбны? — віхурылі ў галаве панічныя думкі й рукі цягнуліся да кніжнай паліцы а вочы выглядалі карэньчык ”Мэдычнага даведніка" й пазбаўленыя падтрымкі нагавіцы нясьпешна спадалі долу.

“Азоаспэрмія...”, “Актывацыя яйка...”, “Алергіі” — пажоўклы ад курава палец ліхаманкава гартаў даведнік, а адгарнуўшы сто трыццатую старонку, гэтак жа ліхаманкава праехаўся пазногцем па словах “Алкагольны галюцыноз”.

“На першы плян выступаюць слыхавыя галюцынацыі: шум, крыкі, галасы, якія звычайна асуджаюць дзеяньні хворага альбо выказваюць пагрозы... Пры гэтым у хворага захоўваецца ясная сьвядомасьць... Хворы апынаецца ва ўладзе ”галасоў", яму здаецца, што яго хочуць забіць або зьняславіць." “Забіць альбо зьняславіць”, — уголас паўтарыў Макар, хвіліну стаяў нерухомы, а калі за сьцяною зноў схрапянуў сусед, заклопнуў кнігу і з рашучасьцю, на якую толькі быў здольны, прашаптаў:

— Зь сёньняшняга дня — ні кроплі!

ацэнкі, пункты гледжання людзей. Далучэнне да пэўных вагараў сістэмы не ратуе: анекдатычны, камічны выпадак падчас афіцыйнага свята абарочваецца жыццёвай трагедыяй, смерцю чыноўніка, які “перастараўся” (“Смерць Сцяпана Кузьміча”). Сусвет спакушае чалавека хараством і гармоніяй[10], але выхад за межы рэчаіснасці — немагчымы. Герой Мудрова ад стану непрыкаянасці можа перайсці толькі да стану маральнага заняпаду, распачаўшы такім чынам новае кола нечалавечага жыцця.

Падзеі, якімі ў Мудрова вымяраецца сацыяльна-мастацкі час — нікчэмныя. Драбнюткія крокі, высілкі выжывання выключаюць уласны выбар, ініцыятыву. Але ў гэтай замкнёнай прасторы кожная з’ява патрабуе дакладнага ўліку: грэчку даюць, цюль давалі, бензін скончыўся... Таму — пільная ўвага да паказанняў гадзінніка: “Аўтобус на Бычкі з білетамі на 17.40...”, “Гадзіннік паказваў палову адзінаццатай...”, “Заўтра, пасля абеду...”, “На гадзінніку — палова сёмай...”, “Дахаты ідуць прыцемкам...”, “Два дні — суботу і нядзелю — ... не адыходзіў ад тэлефона... І вось у панядзелак...”

— Паспець уторкнуць нагу ў дзверы, пакуль яны не зачыніліся перад носам! Амаль хранаметраж цеснага, няўтульнага жыцця!

Замкнёная прастора жыве толькі цяперашнім часам. Мінулага — няма. Вайна, жыццё ў зямлянках, пасляваенная галеча не прысутнічаюць у сучаснасці, бо гэта, як і будучыня, ляжыць па-за жыццём герояў. Безнадзейны, трагічны “прэзентызм”, пяршабытнае мысленне! Але людзей “без карэнняў”, без уяўлення аб вечнасці гэта мала турбуе. Абы жыць!

І ўсплывае думка: “Божухна, навошта ты даў нам розум, мысленне, мову? Няўжо дзеля таго, каб уціснуцца ў чаргу па крупы, біць тэпцямі прусакоў? Няўжо — дзеля мізэрнага едзіва, даху над галавой. Але ж кот Барыс[11] мае ўсё гэта без праблемаў! Ён бы здзівіўся з нас, калі б мог. А мы — можам, здольныя, але не дзівімся. У процівагу рэчаіснасці свядомасць абавязкова будуе ”паралельны свет", сферу мараў, ідэалаў, спасціжэння сутнасці чалавека і свету. Які ж ён убогі ў герояў кнігі! Аб рэчаіснасці яны ведаюць толькі “злую праўду”, таму і вартасці могуць існаваць для іх толькі як ілюзія; быццё гэтых вартасцяў фіктыўнае, аснова іх — незнаёмасць свету. Такія вартасці ў рэчаіснасці праяўляюцца толькі як гульня, як вонкавы жэст.

Нават зразумеўшы страшную праўду жыцця, героі Мудрова могуць толькі здагадвацца аб свабодзе, плачучы, б’ючыся, апіваючыся танным “чарнілам”... Каб вырвацца з дурнаты, глупоты, хамства і ўадначас прымусіць сябе паважаць, героі на свой лад адмаўляюцца ад нялюдскага жыцця. Гэта і бедная Ларыса Пятроўна з яе любоўю да “вусатых мужыкоў” і няўдалай спробай пачаць новае жыццё на цаліне, і яе сын Ванька, апанаваны “парашутызмам” і мараходнымі жарсцямі. А белыя клёшы Лёшкі Мандрыка,



былога “караля аршанскай зоны”! Гэтая свабода не абяцае будучыні. Амаль усе персанажы твораў Мудрова не дзейнічаюць у дакладным сэнсе гэтага слова, але толькі фармальна выконваюць нейкую ролю. Таму й свабода для іх не мае тэмпаральнага вымярэння. Суб’ектыўнасць тут не азначае свабоды нешта рабіць — гэта, хутчэй, адмаўленне і чыста псіхалагічны бунт. Такая суб’ектыўнасць заўсёды, як паказвае Мудроў, шукае кагосьці мацнейшага, хто б даў ёй тлумачэнне.

Героі Вінцэся Мудрова нават не прыстасоўваюцца да абставінаў. Яны — супраць усяго, і ў той жа час веры ў годнасць жыцця яны цалкам не згубілі. Але, не маючы будучыні, яны хочуць “усяго і адразу”. Таму і няздольныя гэтыя людзі да маральных ахвяраў, да сяброўства, кахання. Усе гэтыя вартасці — загадзя спаскуджаныя. Ванька Бянькоў, якога каханне на момант узнімае над гэтым няшчасным светам, набіраецца мудрасці, якой хапае на... прасцецкі крадзеж. Ды й ці магло б выжыць каханне ў смуродзе побыту, бясконцых чэргах, у бойках, п’яных ванітах, у брудных жывёльных стасунках, у поўнай залежнасці ад “законаў зоны”, пашыраных на ўсё грамадства? Героі Мудрова “перажываюць” рэчаіснасць як вялікае расчараванне, але нават не могуць растлумачыць сабе, што з імі робіцца.

Вінцэсь Мудроў у сваіх творах працягвае традыцыі еўрапейскай літаратуры аб лёсе “маленькага чалавека”. Ён паказвае жыццё ў грамадстве арганізуючым ці нават памерлым. Але “жыццё пасля смерці” — гэта жыццё беспамяцця, жыццё небяспечнай, стыхійнай энергіі “масаў”. Сапраўды, адсюль — гісторыя не аднаго злачынства.

---

[1] У літаратуразнаўстве (у В.Шклоўскага, М.Бахціна ды інш.) гэта называецца “отстранением”, калі аўтар ці герой бачаць з’яву непрадузята, без уліку свайго мінулага досведу, раптоўным, “свежым” поглядам. — А.Н.

[2] Гл.: Вінцэсь Мудроў. “Гісторыя аднаго злачынства”. Мн., “Полымя”. С. 48.

[3] Гл.2. С. 79.

[4] Гл.: И.А. Бескова. “О природе трансперсонального опыта”. Вопросы философии. № 2, 1994. С. 40.

[5] Тамсама.

[6] Калі чытала кніжку Мудрова, прыгадаўся мне дыялог двух “рабацяг” на аўтобусным прыпынку. Адзін: — Трэба штосьці з блокам зрабіць. Як ты мяркуеш? Другі: — Думаю, трэба змяніць хуткасць. Будзе тады лябёдка падаваць з іншай хуткасцю.

І толькі я захапілася сваёю роляю сведкі “рацпрапановы”, як ён, гэты другі, дадаў: — Не паспееш выкурыць, як яно... ужо на крыштаванні! — А.Н.

[7] Гл. 2. С.35

[8] Тамсама. С. 8

[9] Тамсама. С.20

[10] Гл. апісанне летняй ночы ў аповесці “Гісторыя аднаго злачынства”: “Надвор’е шаптала: пакінь свае турботы, упадзі ў капу маладой саломы, закінь за галаў рукі і глядзі, глядзі... на светлую вохру захаду, на Мілавіцу, на сярпок зялёнага маладзіка...”

[11] Кот Барыс — персанаж некалькіх твораў Вінцэся Мудрова. Яго прататып жыў у Полацку ў 1981 — 1992 гг. — А.Н.

# ІМУНАЛЁГІЯ ЛІТАРАТУРЫ, АБО ДЫЛЕМА ЭВАЛЮЦЫІ

## Разьдзел з кнігі “Дэфляцыя культуры”

*(Заканчэньне. Пачатак на стар. 5)*

рыха). Тое, што немагчыма прымусіць усё грамадства разьвівацца па схеме актыўнага разьвіцьця, мы ўжо ўпэўніліся на вопыце будаўніцтва камуністычнага раю. Стварыўшы для сваіх грамадзянаў прымітыўна-стабільныя (гарантаваныя) сацыяльныя ўмовы і пазбавіўшы чалавека волі творчага самавыяўленьня, тэарэтыкі й практыкі камунізму забясьпечылі людзям, на якіх яны ставілі свае сацыяльныя вопыты, пасьлядоўную дэградацыю (бо рух эвалюцыі нельга спыніць, як нельга спыніць плынь ракі, і разьвіцьцё чалавека сацыялістычнага грамадзтва стала рэгрэсіўным). Аднак дзесяцігодзьдзі гвалтоўнага сацыялізму, якія замарудзілі эвалюцыйны рух жыхароў Усходняй Эўропы, далі шанс яе насельніцтву набыць іншую (чым у сёньняшнім цывілізаваным сьвеце) парадыгму свайго далейшага разьвіцьця. Напрыканцы XX стагодзьдзя стала відавочна, што людзі, якія жывуць у Заходняй Эўропе й асабліва ў ЗША, з амаль дзевяностадзевяціпрацэнтавай пераважнасьцю патрапілі ў плыню пасыўнай эвалюцыі. Гэта ня значыць, што яны эвалюцыянуюць марудна, не, якраз наадварот — даволі хутка, але чыньнікі, якія ўплываюць на іх разьвіцьцё, выключна вонкавыя. Заходні чалавек цяпер практычна ня ў стане хоць неяк уплываць на гэты працэс. Ён у плыні, тэхнакратычнае грамадзтва дыктуе свае законы й праграмы. На яго фармаваньне татальна ўзьдзейнічае камэрцыйная мас-культура й сацыяльна-бытавыя прагматычныя чыньнікі. Сур’ёзнае мастацтва, тое, якое не прыносіць грошы, было выпхнута на ўзбочыну. Рацыяналізм і прагматызм, якія надалі эканамічнаму развіцьцю заходніх краін паскораную дынаміку, прымушаюць заходняга чалавека перыядычна прыстасоўвацца да рухомых вонкавых абставінаў. Якая небясьпека забясьпечвае ягонае эвалюцыянаваньне? Перш за ўсё — страх застацца бяз працы, адстаць ад хады навукова-тэхнічнага прагрэсу (што амаль тоеснае). Мастацтва й культура робяцца ўсё менш запатрабаванымі. Для вырашэньня эстэтычна-этычных праблемаў хапае рэлігіі, традыцыйнай (пераважна хрысьціянскай) маралі, некаторых відаў прыкладнога мастацтва (дызайн, прамграфіка й інш.) і кінамастацтва. У найгоршым стане якраз апынулася літаратура (нават у такіх традыцыйна-літаратурных краінах, як Нямеччына й Францыя). Занядад заходняй літаратуры можна патлумачыць некалькімі прычынамі. Па-першае, у век кампутараў і электронікі адбыўся крызіс кнігі. Заходні чалавек ня мае багата вольнага часу, каб ахвяраваць яго кнізе, акрамя таго, яму цяжка прымусіць сябе да інтэлектуальна-разумовага дзеяньня — чытаньня, бо ягоная штодзённая праца ўсё больш робіцца разумовай. Па-другое, камэрцыялізацыя мастацтва зьмяніла патрабаваньні да масавай літаратуры й таму сур’ёзная літаратура стала ледзь ня полем дзейнасьці выключна прафэсійных філёзафаў і культуролягаў. Прафэсійныя літаратары пачалі шукаць сабе працы ў іншых памежных з літаратурай сфэрах дзейнасьці — пісаць сцэнары да фільмаў, па-мастацку распрацоўваць біяграфіі поп-зорак і вядомых палітыкаў, нават складаць тэксты для рэклямных відэакліпаў.

Цяжка пагадзіцца, што гэткі лёс літаратуры ёсьць зададзеная (безварыянтная) наканаванасьць. Відавочна, існуюць іншыя парадыгмы яе разьвіцьця. Для гэтага трэба знайсьці (у нетрах магчымасьцяў самой літаратуры) тыя сілавыя вагары й мэханізмы сацыяльнай запатрабаванасьці, якія дазволілі б перацягнуць літаратурны працэс з узбочыны (маргінэса) на сацыяльна-грамадзкі гальфстрым. Такую культуралягічную “апэрацыю” напрыканцы XX стагодзьдзя можна правесьці, бадай, толькі ў краінах Усходняй Эўропы. Яна патрабуе моцнай тэарэтычнай базы й агульных намаганьняў інтэлектуалаў з гэтых краінаў. Для аб’яднаньня намаганьняў спатрэбіцца й адмысловая культуралягічная арганізацыя, якая б каардынавала дзейнасьць. Прыстасаваць для гэтай справы ПЭН-клюб немагчыма, таму што ён ня ёсьць арганізацыяй аднадумцаў, аб’яднаных канкрэтнай справай, да таго ж дзейнасьць ПЭН-клюба кантралюецца культурнымі дзеячамі з заходніх краінаў, якія будуць ня вельмі зацікаўленыя ва ўзмацненьні культуралягічнага ўплыву Усходняй Эўропы.

**P.S.** Гэтая праблема будзе падрабязна разглядацца на міжнароднай канфэрэнцыі “Літаратурны працэс: рэцыдывы посттаталітарнай маргінальнасьці”.




Кастусь ГАМАНЕЦ

# ПАЦІР

## Апавяданьне

Было гэта настолькі даўно, што я б даўно на гэта забыўся, каб з гэтага ўсё не пачалося. А паколькі ўсё пачалося з гэтага, я памятаю. Дарэчы, на гэтым жа й скончылася, але пра гэта пазьней. Усяму свой час.

Я памятаю кантрастныя паўднёвыя фарбы, сьпёку, пагорак. Памятаю горад пад пагоркам — чырвоныя дахі, белыя сьцены дамоў. Цяжкае цёмнае мора. Я стаяў на пагорку й спрабаваў намаляваць краявід. Здаецца, я зьбіраўся тады вучыцца на мастака. Зрэшты, можа, проста ад няма чаго рабіць займаўся маляваньнем. Ня памятаю. Памятаю толькі, што расклаў эцюднік, выняў зь мяшэчка грунтаваную кардону, выціснуў на палітру фарбы й пачаў маляваць эцюд. А, ледзь не забыўся! Там яшчэ была дзяўчына! Яна сядзела паблізу на выпаленай паўднёвым сонцам траве й глядзела, як я малюю. Мабыць, я кахаў яе. Ці яна мне папросту падабалася? Ці я ёй падабаўся? Ня памятаю. Памятаю, што мой эцюд набліжаўся да завяршэньня, калі зьявіўся гэты чалавек. Стары. Сівы. Ён параіў мне намаляваць паболей пірамідальных таполяў і зрабіў яшчэ пару абсалютна сьмешных заўвагаў, як заўсёды гэта робяць людзі, зусім далёкія ад выяўленчага мастацтва. Нашкалт "чаму ў гэтым доме чатыры вакны, а ў цябе ўсяго два" альбо "трава ж зялёная, а ў цябе якая?" Я прызвычаіўся да гэткіх памагатых і не зьвярнуў бы на яго ўвагі, але раптам ён пачаў нешта хрыпла й горача шаптаць мне ў твар. Дзяўчына зьдзіўлена прыўзьнялася з гарачае зямлі. "Цераз гэтую гару, — шаптаў незнаёмы, — проста, потым па перавале, потым пустэльня, за пустэльняю ёсьць нявядомая зямля й недзе там знаходзіцца пацір мудрасьці. Хто пап'е зь яго, спазнае сьвет. Ідзі! Ідзі!" Ён сказаў усё гэта, усьміхнуўся бяззубым ротам ды пайшоў. Хвіліну я муляўся, потым склаў эцюднік, паклаў на выпаленую траву недапісаную працу ды рушыў у тым напрамку, што паказаў стары. Дзяўчына спачатку йшла за мною, пераконвала, потым спынілася, нешта крычала мне ўсьлед, але дзяўчына мяне больш не цікавіла.

Я ўзьлез на гару. Я пераадолеў перавал. Я перайшоў пустэльню. Я ледзь не памер ад смагі, ад голаду, ад роспачы. Але нешта штурхала мяне наперад. Я прайшоў яшчэ адну пустэльню. Я бачыў там людзей, якія шлі ў сьвятыя мясьціны. Але я зразумеў, што гэтыя людзі не сьвятыя, бо яны кралі адзін у аднаго, ды ў мяне ежу і ваду, ды здымалі зь мёртвых адзеньне. Яны брудна лаяліся, калі ім было цяжка й здраджвалі, калі ад гэтага залежала іхняе жыцьцё. Я дзівам выбраўся з гэтае другое пустэльні ды й патрапіў у трэцюю. І я там бачыў ваяроў з пустымі вачыма, якія людзей пераўтваралі ў камень, а камень — у пясок. І яшчэ я бачыў жанчынаў, якія людзей пераўтваралі ў жывёлаў, а жывёлаў забівалі і харчавалі іхнім мясам ваяроў з пустымі вачыма. Але я пераадолеў і гэтую пустэльню.

І патрапіў у лясы. І доўга жыў там сярод зьвяроў. Я навучыўся іхняе мове. Еў зь імі адну ежу. Яны жылі проста, але таксама кралі адзін у аднаго харч, брудна лаяліся, здраджвалі, а іхнія жанчыны, каб здабыць ежу для сваіх мужчынаў, забівалі іншых зьвяроў.

Я ўцёк зь лясоў. Я патрапіў у горад. Я блукаў па закручаных вуліцах, начаваў у метро ды сквэрах. Мяне рабавалі, хаця я амаль нічога ня меў. Мяне прыніжалі, але я ведаў, да чаго я імкнуся. Я выйшаў з горада.

І патрапіў на бераг мора. Я скраў човен. Я плыў па моры шмат часоў. Я тануў, але мяне выцягнулі з вады маракі. Далей я плыў на караблі. Маракі думалі, што я вар'ят, яны харчавалі мяне й добра са мною абыходзіліся, і ўпершыню за доўгія гады свае вандроўкі я адпачыў. Потым мяне высадзілі на бераг, і я пайшоў па невядомае краіне, дзе жылі людзі, якія гавораць на дзіўнай мілагучнай мове. І я знайшоў закінуты паўзруйнаваны горад. І я знайшоў у горадзе старажытны храм, дзе на пастамэнце ўзвышаўся пацір са сьветлага мэталю. А наўкол пастамэнту ляжалі чалавечыя чарапы й косьці, а між імі халодна паблісквала непатрэбная цяпер зброя. Відаць, шмат хто імкнуўся да паціра, але ў выніку гэтае вайны пацір дастаўся мне. Мне — бруднаму, нечасанаму, на хісткіх нагох, з дрыжачымі рукамі, сівому.. Я выпіў паціраву вільгаць. Я спазнаў сьвет.

Да мяне прыйшла мудрасць. І роўных мне не было на гэтым сьвеце. Я кінуў размаўляць зь людзьмі. Гэта нецікава. Я ведаў папярэдне ўсё, што яны мусяць сказаць. Я размаўляў адно з сабою ды й тое рэдка, бо мой суразмоўца часта шакіраваў мяне банальнасьцямі й заштампаванасьцю сваіх думак. Я жыў у храме, дзе знайшоў пацір. Сярод мёртвых касьцей, сярод мёртвае зброі. І калі з мае памяці пачалі зьнікаць цэлыя кавалкі мінулага жыцьця, я зразумеў, што канец даволі блізкі. І тут нешта зноў штурхнула мяне, я кінуў храм з пацірам і рушыў назад па добра знаёмай дарозе. І я зноў прайшоў усе гэтыя моры, пустэльні, гарады, лясы, горы, каб вярнуцца на той пагорак, зь якога ўсё пачалося. А калі я вярнуўся на пагорак, я ўбачыў на ім хлопца, які маляваў эцюд, побач зь ім на гарачай зямлі ляжала дзяўчына. Я падышоў да хлопца і дзеля пачатку размовы зрабіў пару няйстотных заўвагаў, а потым распавёў яму пра пустэльні, горы, лясы, далёкую зямлю, пра пацір мудрасьці. Я ўбачыў, як скамянеў твар гэтага хлопца. Тады я зрабіў выгляд, што пайшоў, а сам схаваўся за калючымі хмызамі ды ўбачыў, як хлопец склаў эцюднік, кінуў на зямлю недапісаны эцюд і пакрочыў у тым напрамку, што я паказаў. Дзяўчына йшла за ім, угаворвала, пераконвала. Потым спынілася, нешта крычала ўсьлед, але я ведаў, што яго ўжо ніколі і нічога ня спыніць...

---

Іра УЛЬСТЭРОВІЧ

# ІРЛЯНДСКІ МІТ, ці Прага імклівай самарэалізацыі

*"— Роры, хіба ты не здаесься разам з намі Францыі?*
*— Не! — цьвёрда адказаў Роры.*
*— Ці не зыходзіш ты да Вільгэльма?*
*— Не, не! — адказаў Роры.*
*— Тады, дзеля Бога, скажы, каго ж ты выбраў?*
*— Я выбраў Ірляндыю.*
*— Ты звар'яцеў! Ірляндыя згублена. У ёй не засталося ніводнай душы. Каго ж ты зьбіраешся абараняць?*
*— Мы засталіся ў Ірляндыі! — так адказаў Роры ці прыкладна так. — І я буду за яе змагацца."*
*"Роры выратуе Ірляндыю!"*

МІТ, збольшага, падобны на непадзеленае каханьне. Суб'екту палкіх перажываньняў, як і носьбіту, спажыўцу міта, няма ніякае патрэбы спраўджваць, верыфікаваць свае пачуцьці і сьветапоглядныя каштоўнасьці, бо яны ёсьць суцэльная праўда. Аб'ект каханьня (міт) не падлягае аніякай крытыцы й аналізу, зьяўляючыся ідэальным у сваёй унутранай дасканаласьці. Больш таго, ён не што іншае, як суб'ектыўна стылізаваны вобраз сусьветнага дрэва, цэнтар існага, што нязмушана структуруе жыцьцёвую прастору. Кожнае слова міта (аб'екта кахання) мае знакавую якасьць (косьць), якая адвольна, здавалася б, без усялякага парадку, абрастае разнастайнымі сэнсамі (мясам). Такім чынам, суб'ект фармуе для сябе максымальна спажыўную суцэльнасьць (плоць), дзе нават таямніцы існуюць пастолькі, паколькі ўжо даўно зьведаныя, хоць і не патлумачаныя. МІТ і каханьне маюць яшчэ адну генеральную ўласьцівасьць. Яны бесьсьмяротныя. Нягледзячы на шыкоўны досьвед у разнастайных галінах усемагчымае веды, чалавецтва так і не здолела знайсьці замяняльнікаў ні міту, ні каханьню. Мала што зьмянілася ад часоў крывіцкіх жрацоў. Як і яны, ядравыя фізікі ды хімікі тлумачаць наш сьвет адпаведнымі мітамі. Адзінае, што моцна пацярпела, дык гэта эстэтыка тэкстаў, бо вузкая карпаратыўнасьць вымагае сваіх правілаў складаньня мітаў і адпаведнай мовы, не заўсёды прыдатнай шырокаму спажыўцу. Адсюль надзвычайнае ўскладненьне сучаснай міталёгіі, яе варыябельнасьць. Тое, што для аднаго пакаленьня (групы) зьяўляецца мітавай рэальнасьцю (г. зн. праўдай), для другога мусіць быць казкай (чарадзейнай, сацыяльна-пабытовай ці інш.), для трэцяга толькі лёгкай забавай (дзіцячай гульнёй) ці нават показкай. У значнай ступені гэта датычыцца Найноўшага Беларускага Адраджэньня — складанага міталягічнага комплексу. Выразная разьдзёртасьць фармальнага "адраджэнства" выяўляецца перш за ўсё ў ідэалах, мэтах і сродках гэтага даволі няпэўнага і аморфнага працэсу. Яшчэ за савецкім часам даў расколіну міт выключнай славянскасьці беларусаў. Багатая навуковая фактура В.Сядова сфармавала трывалы грунт для інтэлігенцкіх памкненьняў пачувацца эўрапейцамі балтыцкага кшталту. У гісторыка-рамантычным кантэксьце балтыцкую зарыентаванасьць з выразным паганскім адценьнем выявіў У.Караткевіч. Адныя толькі прозьвішчы ягоных станоўчых герояў сьведчаць за гэта: Гудас, Волат, Каляда, Велінец, Крывіц ды інш. У прафэсійных жа колах новых беларускіх гісторыкаў жаданьне атаясаміць балтыцкасьць (літоўскасьць) і беларускасьць набыло у постперабудоўчыя часы такую моц, што натуральна знэрвавала летувісаў. Больш таго, зрабіла з іх змрочных нэўтралаў, якія хугчэй з палёгкай назіралі, як бразгатнулася долу беларуская Пагоня. На тле ж унутранай беларускай сітуацыі і "інтэгратыўнай" актыўнасьці прэзыдэнта прыхільнасьць да славяншчыны ў нацыянальна сьвядомых колах стала сінонімам элемэнтарнай непрыстойнасьці. У разьлік, ведама ж, не бяруцца "дзяды ад беларушчыны", укаранёныя у акадэміі ды інстытутах.

Пяць гадоў афіцыйнага адраджэньня выявілі і ўзаемную міжпакаленную незадаволенасьць. Старэйшыя, скарыстаўшы раптоўна зваліўшуюся незалежнасьць для масавага тыражаваньня сваіх кніжак, так і не ўцямілі, што лёзунгі пачатку стагодзьдзя (калі найвялікшай марай было стварэньне нацыянальна-культурнай аўтаноміі ў скла-

---

Лера СОМ

# 25 КРЫЛАТЫХ ВЫРАЗАЎ *



DE NIHILO NIHIL [1]

...Пераважная большасць беларускіх пісьменнікаў цытуе расхожых расейскіх класікаў. Нязначная меншасць — хрэстаматыйных класікаў заходніх (у расейскіх перакладах).

Узровень адукацыі? — неадукаванасці?..

PRIMUS IN ORBE DEOS FECIT TIMOR [2]

...Як толькі з'яўляецца Бог, з'яўляецца і раб Божы. Раб — не чалавек. Экзатэрычная рэлігія — жывёльная форма пазнання.

SOLUS CUM SOLA NON COGITABUNTUR ORARE: "PATER NOSTER" [3]

...Хрысціянства адняло ў пачуццёвага кахання саму мажлівасць адчуваць сябе цнатлівым і чыстым.

PARVUM PARVA DECENT [4]

...Насельніцтва (сурагат паняцця "народ") спажывае сурагат паняцця "культура" і чамусьці здзіўляецца паўсюднаму смуроду прыбіральні.

FPAGILE CORPUS ANIMUS SEMPITERNUS MOVET [5]

...Без авалодання целам чалавеку не дадзена спасцігнуць ні душу, ні дух. Авалоданне ж пачынаецца з павагі.

TEMPUS TANTUM NOSTRUM EST [6]

...Спісваюць на час уласныя дурасць, подласць ці пошласць інфантылы і (ці) баязліўцы.

RES LOQUENTUR, NOBIS TACENTIBUS [7]

... Каханне — рэч незакончаная, незавяршаемая і сустракаецца рэдка, бо мала хто працавіты настолькі, каб штодня займацца яго будаўніцтвам, калі вакол процьма хатніх спраў.

NON PROGREDI EST REGREDI [8]

...Рэшткі сапраўдных, найстаражытнейшых ведаў называюць містыкай і ставяцца да іх горш, чым да дзіцячых казак... І людзі, якія маюць высокі містычны прарыў, не гавораць пра гэта, бо баяцца мянушкі хлусаў-фантазёраў-вар'ятаў. Маўклівы мур страху не пускае іх ісці далей.

APUD ALIOS LOQUI DIDICERUNT, NON IRSI SECUM [9]

... Ёсць катэгорыя літаратараў, якія, патрапіўшы ў сталічны літасяродак, дзе даволі суразмоўцаў, не пішуць болей — бо выгаворваюць тое, што раней выпісвалі: размова ж таксама дае магчымасць фармуляваць сябе, а больш, як высвятляецца, не трэба.

AVARITIA COPIA NON MINUITUR [10]

...Беднасць — выдатная школа, пакуль яна не перашкаджае набыццю ведаў.

MEMENTO SERVITUDINEM [11]

... Вольным можа быць толькі той, хто не мае ні сям'і, ні сяброў.

MUNDUS VULT DECIPI, ERGO DECIPIATUR [12]

...Калі б чалавек ведаў, як яго ная хлусня адбіваецца на ім самім, ён бы наогул замоўк.

FESTINA LENTE [13]

... Няспешную хаду можа сабе дазволіць толькі той, хто ведае, куды ён ідзе.

SERVITUDO ALTERA MORS [14]

...Паміж поўным рабствам і поўнай свабодай маецца безліч пераходных станаў.

RES SUIS VOCABULIS NOMINARE [15]

... Думка — адлюстраванне першаідэі, першы яе адбітак. Слова — гукавое афармленне думкі, другі адбітак. Пісьмо — графічны сродак перадачы гуку, трэці адбітак. Пры кожнай трансфармацыі нешта страчваецца. Той, хто працуе з напісаным словам, наколькі ён далёкі ад першаасновы?..

GRAVISSIMUS EST MORBUS QUI A CAPITE DIFFUNDITUR [16]

...Галоўны прынцып іерархіі — на прыступку вышэй стаіць той, хто больш дасканалы, больш працаздольны, больш дальнабачны. Жыццяздольныя толькі тыя сістэмы, дзе паслядоўна вытрымліваецца гэты прынцып.



дзе Расіі) у дні сённяшім вядуць да стварэньня комплексаў нацыянальнай непаўнавартасьці. Іхнія ўспаміны, поўныя аўтазахапленьня, пра выданьне нейкіх рукапісных газэтаў і позвы ў КДБ выклікаюць у маладых адно скептычную ўсьмешку і ўспрымаюцца як змуляныя показкі. Да таго ж старэйшыя навялі псоту на СЛОВА, зрабіўшы яго бессэнсоўным ці папрост хлусьлівым ("мне краёў чужых ня трэба, як не варажы..."). І адчайная дзея студэнтаў, што спрабавалі дыскрэдытаваць чужы сьцяг, дасца ў знакі ўстакроць больш, чым бясконцыя нудныя просьбы ( у каго прасілі?) нацаўтарытэтаў. Змарнаваныя гады не выявілі арганізаванай стваральнай дзеі, без якой любая нацыянальная ідэя набывае статус хімеры. Цяпер дзея мусіць быць прамой і змагарнай, пазбаўленай залішніх словаў, бо гэта распыльвае і так малыя сілы. Балбатня, праз якую, напрыклад, так любіць выцьвярэджваць свае і грамадскія комплексы сп.Адамовіч ("Правы рэванш"), сягоньня ня проста пустая забава — гэта ўжо гатовы кампрамат на ўсе нацыянальна здаровыя памкненьні. І тым ня менш маладыя ўхапіліся за новы міт — ірляндскі. Маўклівае і дзейнае каханьне, што мусіць разгарнуцца у здэмаралізаваным горадзе. Пакуль яшчэ беларуска-ірляндская лучнасьць вышукваецца ў бульбяной кулінарыі, віскі (нібыта падобнае на тутэйшую жытнёўку), у газэтных вышчэмках сямідзесяцігадовай даўніны (падрабязьней глядзі Н.Н. 1994, № 12). Нясьпелае каханьне прымушае не заўважаць больш істотных, але меньш прыемных рэчаў. Напрыклад тое, што татальную ўсюдыпранікнёнасьць ірляндскага касьцёлу ня здолелі б вытрымаць нават самыя апантаныя каталікі Беларусі. Ці тое, што масавая ірляндская эміграцыя ў адрозьненьне ад нашай, якая ў сваёй большасьці запісвалася кім заўгодна, толькі не беларусамі, так і не забылася, скуль яна, якога роду. Палымяная любоў да разьдзёртай радзімы перыядычна вылівалася ў значныя грашовыя зборы сярод ірляндскай грамады на справу змаганьня з ангельскай акупацыяй.

І ўсё ж маладыя закахаліся ў Ірляндыю. Закахаліся ня столькі ў выбітны фолк ці ў славутага "УЛІСА", колькі ў вобраз мужнага змагара з Поўначы іхняе выспы, якога яшчэ нельга адшукаць ні на Захадзе, ні на Усходзе нашай краіны. МОЦ ТАГО, ХТО ПАВІНЕН БЫЦЬ СЛАБЫМ, ЗАЧАРОЎВАЕ.

Нават распрананьне да майткоў на ангельскай мытні (пераблыталі з-за рудой барады з ірляндцам) выклікае ў некаторых беларусаў салодкае трымценьне далучанасьці да СПРАВЫ. Але гэтага замала. Бо, хай сабе і маладое і непадзеленае, каханьне (ірляндскі міт) павінна быць ня толькі словам, але і ЛАДАМ, ДЗЕЯЙ, што рана ці позна ўпарадкуе беларускі хаос.

PUGNAM HERI VIDI [17]
Усё жыццё вучышся любіць. За хвіліну навучаешся ненавідзець.

POPULATUS [18]
...Душа заваёўніка больш пустая, чым спаленая ім зямля. Тое ж датычыцца і народаў-заваёўнікаў.

AUDI, SILE [19]
... Гледзячы беларускае ТБ, думаецца, і занадта часта:
— Калі табе за гэта заплацілі, ты — падонак; калі ты шчыра так думаеш — асёл.

CAVE, QUID DICAS, QUANDO ET CUI [20]
...Узносяць не самага таленавітага, а таго, хто прыйшоў своечасова.

FIAT LUX [21]
Калі ў тваёй галаве цемра, ты не маеш права патрабаваць святла ад свету.

QUID AGAM, JUDICES? [22]
...Найбольш цікавыя тыя дзённікі, якія аўтары меркавалі спаліць.

IMMORTALIA NE SPERAS [23]
...Той, хто думае пра вечнае — крочыць да славы, хаця марыць пра бессмяротнасць.

NOX NON IMPEDIT [24]
...Паэтам лепей працуецца ноччу, таму што ім не замінаюць грубыя думкі "штодзённасці".

IN EA TERRA DIU MANSI [25]
...Таму, хто ўмее хадзіць па лязу, цяжка ісці па шырокай дарозе.

* 25 крылатых выразаў трэба завучыць напамяць студэнту філфака, каб здаць залік па лацінскай мове.

[1] Нічога з нічога не ўзнікне.
[2] Першымі ў свеце багоў стварыў страх.
[3] Ён і яна сам-насам не падумаюць чытаць "Ойча наш".
[4] Маленькім пасуе маленькае.
[5] Тленнае цела рухае вечны дух.
[6] Толькі час нам належыць.
[7] Няхай мы маўчым — справы гавораць.
[8] Не ісці наперад — значыцца ісці назад.
[9] Навучыліся казаць перад іншымі, але не самі з сабой.
[10] Багацце прагнасці не змяншае.
[11] Помні пра рабства.
[12] Свет жадае быць падманутым, дык няхай падманваецца.
[13] Спяшайся павольна.
[14] Рабства — тая ж смерць.
[15] Называць рэчы іх імёнамі.
[16] Найбольш цяжкая тая хвароба, якая пачынаецца з галавы.
[17] Учора я бачыў бітву.
[18] Гэтае слова мае два значэнні: спустошаны і які спустошыў.
[19] Слухай і маўчы.
[20] Думай, што, калі і каму гаворыш.
[21] Няхай будзе святло!
[22] Што мне рабіць, судздзі?
[23] Не чакай бессмяротнасці.
[24] Ноч не замінае.
[25] Я доўга заставаўся ў гэтай краіне.

Міхал АНЕМПАДЫСТАЎ



# НАРОДНЫ АЛЬБОМ

## (міжваенны перыяд)

### ЮЗІК

*Усім прывітаньне*
*Завуць мяне Юзік*
*Я хачу жыць*
*У Савецкім Саюзе*

*Я просты хлопец*
*Я хлопец зь вёскі*
*На піляраме*
*Пілую я дошкі*

*Дошкі пілую*
*Ад рана да рана*
*А скутку няма*
*Бо працую на пана*

*Маю заробак*
*Мізэрныя грошы*
*П'ю самагонку*
*Палю папіросы*

*Я супраць прыгнёту*
*Паноў ды падпанкаў*
*Чакаю з надзеяй*
*На рускія танкі*

### КАЗІК

*Вітам панове*
*Я Казік Песецкі*
*Я рэакцыйны*
*І анцісавецкі*

*Я рэпрэзэнтант*
*Ад пануючай клясы*
*Эксплюатую*
*Працоўныя масы*

*Тут я праездам*
*Па справах прыватных*
*Справы зраблю*
*І паеду дахаты*

*Мешкам у Вільні*
*Маю там краму*
*Мода для дамы*
*І мода для пана*

*Грошай хапае*
*Усё будзе добра*
*Нех жые Польска*
*Ад мора да мора*

### БОЙКА НА ЛУЗЕ

*Сустрэліся неяк*
*Выпадкам на лузе*
*Юзік і Казік*
*Казік і Юзік*

*Казік сьпяшаўся*
*І не павітаўся*
*Юзік пакрыўдзіўся*
*І раззлаваўся*

*Юзік спыніўся*
*І запытаўся*
*Хто ты такі?*
*Адкуль ты ўзяўся?*

*Казік ў адказ*
*Далікатна змаўчаў*
*А Юзік пакрыўджаны*
*У лоб яму даў*

*Казік за Юзікаў*
*Гузік схапіўся*
*І на сырую*
*Зямлю паваліўся*

*Вось жаш наступствы*
*Сустрэчы на лузе:*
*Ходзіць па вёсцы*
*Бяз гузіка Юзік*

### КАНТРАБАНДЫСТ

*Тут, на памежжы*
*Каменныя вежы*
*Жалезныя дзьверы*
*Замкі і засовы*
*Таемныя пасткі*
*Падземныя сховы*
*Маўклівыя маскі*
*На тварах аховы*
*Ім сэрцы і душы*
*Аплецены дротам*
*І токам атручана кроў.*

*А ў кантрабандыста*
*Блакітныя вочы*
*Ён працуе штоночы*
*Робіць цёмную справу*
*Парушаючы Права*
*І закон крымінальны*
*Праз граніцу цягае*
*Кантрабандны тавар*

*А ў кантрабандыста*
*Сталёвыя нэрвы*
*Ён гуляе у цемры*
*Ў небясьпечныя гульні*
*А драпежная куля*
*Нецярпліва чакае*
*Каб нарэшце спаткацца*
*Каб напіцца крыві*

*Ды ў кантрабандыста*
*Ёсць ад кулі замова*
*Не баіцца ён змовы*
*І таемнае пасткі*
*Не баіцца ён кратаў*
*Ўсё адно ён дахаты*
*Адсюль уцячэ*

*Бо ў кантрабандыста*
*Ёсць на сэрцы наколка*
*Там ключы і іголка*
*І кажанавы крылы*
*Ён турэмныя краты*
*Тым ключом адмыкае*
*Крылы ш'е і зьлятае*
*Прэч у чорную ноч*

### АЛІЦЫЯ

*На вакацыях, пад акацыяй,*
*У альтанцы сядзела Аліцыя.*
*Элегантная і выкшталцоная,*
*І чытала напамяць Гарацыя*

*У кампаніі дзьвух каляжанак,*
*Вядучы дыялогі прыватныя,*
*Пілі каву яны з цынамонам*
*З парцэлянавых філіжанак*

*Час ад часу да іх кавалеры*
*Заглядалі нібы выпадкова*
*Кавалеры мелі манэры,*
*І намэры цнатліва-прыстойныя*

*Хлопцы трымаліся з годнасьцю*
*Стрыманай ды зухаватай*
*І зрэдку любілі дзяўчат*
*Далікатна спалохаць вужакай*

*А побач ў балоце жабы*
*Песьні сьпявалі маркотныя*
*На тыя адвечныя тэмы,*
*Што сэрца хвалююць шляхотнае*

*Так мінала ў нябыт пакрыёму*
*Тое ціхае, цёплае лета.*
*На парозе стаяла восень,*
*Пагражаючы пісталетам.*

### ЛАЛАЛАЛА

*У нашым мястэчку восень,*
*І прыхадні розныя лазяць па хатах.*
*Тыкаюць пальцамі ў сала*
*І наводзяць свае парадкі*

*Ў мяне на душы паскудна*
*І словаў бракуе, каб выказаць гэта.*
*І не хапае мне моцы,*
*Каб далей моўчкі трываць*

*Я пайду па мястэчку,*
*Я вазьму у рукі кала*
*І засьпяваю ўголас,*
*Каб чулі ўсе:*
*— "Лалалала!"*




Ян Павел II



# ПЕРАКРОЧЫЦЬ ПАРОГ НАДЗЕІ

Урыўкі з кнігі *

## "ПАПА-НЕСПАДЗЯВАНАК"

***Што вядома на Беларусі з сучаснай каталіцкай думкі? Якія аўтары неатамісцкай плыні, тэолагі Касцёла, прадстаўнікі каталіцкай інтэгральнай антрапалогіі вядомы ў нас? Відавочна, не можам пакуль што пахваліцца багаццем перакладаў гэтага кірунку, засяроджаныя на самой "смятанцы" — дэканструктывізме, постмадэрнізме, канцы-гісторыі і г.д.***

***А тым часам на тле сучаснай сусветнай думкі — не толькі "кветкі зла"; застаюцца і даюць добры плён традыцыі, што ідуць ад Праайцоў... Тамісцкае мысленне — стрыжань пабудаванай еўрапейскай культуры. Абагуліўшае рацыянальным чынам пэўную ісціну Богаведы, яно аказалася надзвычай стасоўным як для далейшых уласна-духоўных развязанняў, так і для практычнага — тэхнічна-культурнага — уладкавання жыцця еўрапейскай супольнасці. Адзіны, святы, усеагульны і апостальскі Касцёл як бы паўстаў наземнай службай, што заапекавалася справамі слушнасці таго ўладкавання.***

***Таму невыпадковая цікавасць да інтэлектуальнага аблічча і інтэнцый Таго, хто наканаваннем вылучаецца на чаленне Рымска-каталіцкай царквы — Рымскага Папы. Папа Ян Павел II — да пантыфікату кардынал, арцыбіскуп Кракаўскі Караль Вайтыла — з кастрычніка 1978 г. уважаны за пераемніка Пятра на Рымскай катэдры і Вярхоўцу сусветнай хрысціянскай царквы. "Папа-неспадзяванак" — гэткае рэнамэ заслужыў рымскі біскуп неўзабаве адразу ж пасля пачатку пантыфікату. На тое засведчылі шмат якія рысы і ўчынкі Яна Паўла II, сярод якіх не апошняе месца займаюць менавіта яго інтэлектуальныя якасці. Напэўна, не кожнаму вядома, што Караль Вайтыла да абрання на Рымскую катэдру меў за плячыма багаты літаратурны і філасофска-тэалагічны досвед: не меўшы трыццаці год (нар. у 1920 г.) дастаў ступень доктара габілітаванага ў галіне філасофіі (што адпавядае ступені доктара навук па савецкай класіфікацыі); з 1956 г. і да самага абрання Папам — кіраўнік катэдры этыкі ў Люблінскім каталіцкім універсітэце, ксёндз-прафесар. Найбольш вядомыя яго працы "Каханне і адказнасць" (1960), "Тамісцкі персаналізм" (1961), "Этыка і маральная тэалогія" (1967), "Асоба і чын" (1969), "Роздумы аб смерці" (1975). Апроч таго, аўтар шэрагу паэтычных і драматургічных твораў.***

***Між іншым, браў актыўны ўдзел, як польскі епіскап і тэолаг, у працы і падрыхтоўцы дакументаў II Ватыканскага Сабору (1962 — 1965), што стаўся этапнай падзеяй у жыцці сучаснага Касцёла. Вядома ж, з пачаткам пантыфікату цэнтр высілкаў Вайтылы перанесены ў плоскасць практычнай евангелізацыі свету ("новай евангелізацыі"), у мысленне катэгорыямі Касцельнай Дактрыны. Аднак жа спантанічныя маральныя і філасофскія выказванні папежа, што час ад часу прасочваюцца ў друк, а нярэдка прамаўляюцца падчас місійных казанняў, — стала сведчаць пра інтэлектуальную няўрымслівасць цяперашняга Вярхоўцы Касцёла.***

***Кніга-дыялог з італійскім журналістам і пісьменнікам Віторыя Месоры (Vittoria Messori) "Перакрочыць парог надзеі" — як бы скутак найноўшага досведу Яна Паўла II, яго развагі над сучаснымі і адвечнымі пытаннямі веры і Богаведы. 35 самых разнастайных пытанняў пра веру, Бога-Айца, Хрыста, лёс хрысціянства ў постсучасную пару, яго стасункі з ісламам, будызмам, юдэйствам і г.д. у пісьмовай форме задаў Папу журналіст і атрымаў аўтограф адказаў Яго Светласці. Некаторыя аглядальнікі лічаць, што дадзеная кніга — своеасаблівы інтэлектуальны тэстамент цяперашняга Папы, выдатны ўзор сучаснага тамісцкага мыслення і фенаменалогіі, а адначасна — творчай тэалогіі і ў пэўным сэнсе містыкі. Разгадваць прыхаваныя сэнсы фігураў Папавай думкі даследчыкам давядзецца немалы час.***

***Паводле досведу перакладчыка, "сакрэт" Папавага стылю выказвання заключаецца не ў семантыцы і сінтаксісе (яны досыць адвольныя і месцамі нават "непрычасаныя"), і не ў падразумявальнай дагматычнай дактрыне (яна папросту не азначана як след, як бы вынесена за дужкі дыскурсу, хоць фармальна апеляцыі робяцца да яе...), а ў тым, што думка Папы жыва генеруецца ў працягу паміж простым словам (увесь час новым, каторае шукаецца) і Дактрынай Касцёла, іманентнай і не акрэсленай выразна. У пэўным сэнсе Папа, як на наша ўспрыманне, дэманструе ўзор, можа быць, нечуванай вольнасці мыслення (постмадэрнізму), што да традыцыйна-кансерватыўнага вобразу Рымскага Папы. — Пацвярджаючы, такім чынам, невыпадковасць свайго паспалітага менавання "папа-неспадзяванак".***

***"Неспадзяванкі" Яна Паўла II у апошняй кнізе "Перакрочыць парог надзеі", выдадзенай пры канцы 1994 г. агульным тыражом каля 20 млн. экземпляраў, асэнсоўваюцца сёлета чытачамі болей чым у 36 краінах свету. Апроч, пакуль што, Беларусі.***

**Перакладчык**

<...>

## МАЛІЦЦА: ЯК І ДЗЕЛЯ ЧАГО

**2. — Няхай жа будзе дазволена папрасіць Вашу Светласць адкрыць хоць бы частку свайго сэрца. У сувязі з перакананнем, што ў Вашай асобе — падобна як у выпадку кожнага Папы — прысутнічае Таямніца, каторую прымаем дзякуючы веры, узнікае міжвольнае пытанне: як Ваша Светласць нясе такі цяжар, што, па-чалавечы беручы, невыносны? Ніводзін чалавек на зямлі, нават найвышэйшыя прадстаўнікі паасобных рэлігій, не маюць такой адказнасці: ніхто бо не ўваходзіць у такую блізкую лучнасць з Богам.**

**Калі можна запытацца: як Ваша Светласць звяртаецца да Хрыста? Якім чынам вядзе ў малітве дыялог з тым Хрыстом, каторы даручыў Пятру (каб дайшлі ажно да Вашай Светласці, дзякуючы апостальскай пераемнасці) "ключы Царства нябеснага", надзяляючы яго ўладай "звязвання і развязвання"?**

— Пытаецеся пра малітву, пытаецеся ў Папы аб тым, як ён моліцца. Можа, пачнём з таго, што св. Павел піша ў Лісце да рымлянаў. Думаю, апостал патрапляе *in medias res*, калі кажа: "Дух дапамагае ў нашай слабасці. Бо калі не ўмеем маліцца так, як трэба, сам Дух просіць за нас маленнямі невымоўнымі (Рым., 8, 26)"[1]

*Чым з'яўляецца малітва?* Найбольш пашыранае меркаванне, што гэта — размова. У размове заўсёды ёсць "я" і "ты", прычым "Ты" ў дадзеным выпадку пішацца з вялікай літары. Першапачаткова вопыт малітвы вучыць, нібыта "я" тут вядучае. Але потым пераконваемся, што на самай справе інакш. *Вядучым з'яўляецца "Ты", у каторым бярэ пачатак наша малітва.* Менавіта гэта даводзіць св. Павел у Лісце да рымлянаў. Для Паўла малітва з'яўляецца адбіткам усёй створанай рэчаіснасці, у пэўным сэнсе — *функцыяй касмічнай.*

*Чалавек — святар усяго стварэння,* прамаўляе ад яго імя, але прамаўляе настолькі, наколькі яго вядзе Дух. Належала б асэнсаваць увесь гэты фрагмент Ліста да рымлянаў, дзеля таго каб увайсці ў глыб таго, чым з'яўляецца малітва: "стварэнне з надзеяй чакае з'яўлення сыноў Божых. Бо стварэнне не самахоць паддалося марнасці, але па волі таго, хто авалодаў — у надзеі, што само яно будзе вызвалена з палону тлену на волю і славу дзяцей Божых. Бо ведаем, што ўсё стварэнне разам стогне і пакутуе ажно дагэтуль у пакутах нараджэння. Дый не толькі яно, але і мы самі, што маем зачатак Духу, і мы ўсёй сваёй істотай стогнем, чакаючы ўсынаўлення — выкуплення цела нашага. Бо мы вызвалены надзеяй" (8, 19—24). І тут сустракаемся з раней ужо працытаванымі словамі, дзе Апостал сцвярджае: "Дух дапамагае ў нашай слабасці. Бо калі не ўмеем маліцца так, як трэба, сам Дух просіць за нас маленнямі невымоўнымі" (8, 26).

*Такім чынам, найважнейшы ў малітве — Бог.* Найважнейшы — Хрыстос, каторы ўсёчасна вызваляе стварэнне з палону тлену і вядзе да вольнасці, да славы дзяцей Божых. Найважнейшы — *Святы Дух*, каторы "дапамагае ў нашай слабасці". Малітву заўсёды пачынаем з думкай, што гэта наша ініцыятыва. Тым часам гэта заўсёды Божая ініцыятыва ў нас. Дакладна так, як піша св. Павел. *Гэтая ініцыятыва вяртае нам нашу ўласную чалавечнасць, вяртае нам нашу апрычоную годнасць.* Словам, вядзе нас да найвышэйшай годнасці дзяцей Божых, сыноў Божых, каторыя з'яўляюцца чаканнем усяго стварэння.

Маліцца можна і трэба па-рознаму, як багата вучыць нас таму Біблія. *Кніга псалмаў дзеля гэтага незаменная.* Трэба маліцца "маленнем невымоўным", каб увайсці ў рытм хваляванняў самога Духу. Трэба прасіць аб прабачэнні, уключаючы ў гэтае вялікае жаданне Хрыста Адкупіцеля (Габр., 5, 7). І ўвесь час трэба выказваць хвалу. *Малітва заўсёды — opus gloriae* (твор хвалы). Чалавек — святар стварэння. Хрыстос замацаваў гэтую яго годнасць і гэтае пакліканне. Стварэнне спаўняе свой *opus gloriae* праз тое, што ёсць, чым ёсць і чым становіцца.

Навука і тэхніка таксама ў пэўным сэнсе служаць той жа мэце. Аднак жа паколькі яны — тварэнне рук чалавечых, то могуць ад той мэты адводзіць. Узнікае пагроза, што цяпер гэта ў нашай цывілізацыі ўзмацняецца, таму гэтай цывілізацыі так цяжка быць цывілізацыяй жыцця і любові. Бракуе ёй якраз таго *opus gloriae*, галоўнага прызначэння ўсіх стварэнняў і найперш *чалавека*, каторы быў створаны дзеля таго, *каб праз Хрыста станавіцца для гэтых стварэнняў святаром, прарокам і каралём.*

Пра малітву напісана вельмі многа. Яшчэ болей чым напісана дасведчана ў гісторыі роду чалавечага, асабліва ў гісторыі Ізраіля, а таксама ў гісторыі хрысціянства. *Паўнату* малітвы чалавек асягае не тады, калі найбольш выяўляе сябе, але тады, *калі ў ёй найпаўней прысутнічае сам Бог.* Сведчаць аб гэтым гісторыі містычнай малітвы на Усходзе і на Захадзе: св. Францішак, св. Тэрэза з Авіля, св. Ян ад Крыжа, св. Ігнацi Лаёла, а на Усходзе, напрыклад, св. Серафім з Сарова[2] і шмат іншых.

<...>

## ЦІ БОГ САПРАЎДЫ ІСНУЕ?

**4. — Вера хрысціян-католікаў, для каторых Ваша Светласць з'яўляецца пастарам і настаўнікам (у імя адзінага Святара і Настаўніка), мае як бы тры "ступені", тры "ўзроўні", што цесна паміж сабой звязаны: Бог, Ісус Хрыстос, Касцёл. <...>**

**З пэўнасцю вера ёсць дарам, Божай ласкаю. Але дарам Божым ёсць таксама і розум. Згодна з выказваннямі святых і дактароў [3] Касцёла, хрысціянін "верыць, каб разумець", але пакліканы таксама "разумець, каб верыць".**

**Пачнём ад пачатку: Святы Айцец, хочучы застацца — калі гэта магчыма, прынамсі, пакуль што — у чалавечай перспектыве, ці можа чалавек — і якім чынам — прыйсці да пераканання, што Бог сапраўды існуе?**

— У Вашым пытанні па сутнасці маецца на ўвазе *паскалеўскае адрозненне* паміж Абсалютам, ці *Богам філосафаў* (*"libertins"*, рацыяналістаў), і *Богам Ісуса Хрыста*, а перад ім — Богам Айцоў ад Аўрама да Майсея. *Толькі гэты другі з'яўляецца Богам Жывым.* Першы — плён чалавечай думкі, чалавечай спекуляцыі, каторая, зрэшты, можа распавесці пра Яго і нешта слушнае, як прыгадвала нам гэта саборавая Канстытуцыя *"Dei verbum"*. Усе гэтыя разумовыя аргументы па сутнасці ідуць дарогай, паказанай у Кнізе Мудрасці (прытчаў Саламонавых. — ***Заўв. пер.***) і Лісце да рымлянаў: ад бачнага свету да нябачнага Абсалюту.

Па-свойму рухаецца тою дарогаю Арыстоцель, па-свойму — Платон. *Хрысціянская традыцыя да Тамаша з Аквіны* [4], у тым ліку і Аўгустын, была хутчэй звязана з Платонам, ад якога адначасна імкнулася дыстанцыявацца і слушна, бо для хрысціян Абсалют філасофскі, ці то як Першая Істота, ці то як Найвышэйшае Дабро, з'яўляецца чымсьці другарадным. Навошта займацца філасофскімі спекуляцыямі на тэму Бога, калі прамаўляў да іх Жывы Бог, і не толькі праз Прарокаў, але праз свайго Сына? *Тэалогія Айцоў*, асабліва на Усходзе, яшчэ болей дыстанцуецца ад Платона і ад філосафаў. Яна застаецца тэалогіяй нават тады, калі распрацоўвалася як філасофія (такі прыклад у навачасную пару ў выпадку Уладзіміра Салаўёва).

Затое св. Тамаш у пэўным сэнсе не пакінуў дарогі філосафаў. Пачаў "Збор тэалагічны" з пытання: *"An Deus sit"* — "Ці існуе Бог?" (пар. 1, ч. 2, а. 3), гэта значыць ад таго самага пытання, каторае ставіце Вы. І пытанне гэтае аказалася вельмі патрэбным. Гэтае пытанне стварыла не толькі тэадыцэю, але таксама і ўсю заходнюю цывілізацыю. Цывілізацыя гэтая, як уяўляецца, найбольш развітая, пайшла ў рытме гэтага пытання. І хоць сёння, на жаль, "Збор тэалагічны" адкладзены на паліцы, аднак жа гэтае пачатковае пытанне "Збору" застаецца ў нашай цывілізацыі і гучыць зноў.

У гэтым месцы належала б працытаваць цалкам наступны фрагмент Канстытуцыі *"Gaudium et spes"* II Ватыканскага Сабору: "Парушэнне раўнавагі, якое перажывае сённяшні свет, у сутнасці звязана з больш прынцыповым зрушаннем раўнавагі, каторае мае месца ў сэрцы чалавечым. Таму што ў самім чалавеку многа элементаў узаемна змагаюцца. З'яўляючыся стварэннем, ён зведвае, з аднаго боку, шмат якіх абмежаванняў, з другога боку, адчувае сябе неабмежаваным у сваіх памкненнях і пакліканы да вышэйшага жыцця. Прыцягнены многімі спакусамі, мусіць увесь час выбіраць паміж імі і адмаўляцца ад некаторых. Усё часцей, будучы слабым і грэшным, робіць тое, чаго не хоча, але ж не тое, што хацеў бы рабіць. Таму пакутуе ад раздвоенасці ў самім сабе, ад чаго ў сваю чаргу столькі і такіх вялікіх супярэчнасцей нараджаецца ў грамадстве. <...> Апроч таго, у сувязі з цяперашняй эвалюцыяй, з кожным днём *усё больш тых, хто ставіць альбо самыя галоўныя пытанні, альбо з новай праніклівасцю разважае: чым ёсць чалавек;* які сэнс цярпення, зла, смерці, што па-ранейшаму існуюць, хоць адбыўся такі вялікі прагрэс? Навошта гэтыя перамогі, купленыя такім вялікім коштам; што можа чалавек даць грамадству і чаго можа ад яго чакаць; што будзе пасля гэтага зямнога жыцця? Касцёл жа верыць, што Хрыстос, каторы за ўсіх памёр і пастаў з мёртвых, можа чалавеку праз Дух Святы даць святло і сілаў, каб здольны быў адпавядаць свайму найвышэйшаму прызначэнню; і што не дадзена людзям іншага пад небам імені, праз якое маглі б быць збаўленымі. Гэтак жа сама верыць, што ключ, цэнтр і мэта ўсёй чалавечай гісторыі знаходзіцца ў яго Гаспадару і Настаўніку" (*"GS"*, 10).

Надзвычай змястоўны гэты саборавы тэкст. З яго выразна відаць, што адказ на пытанне: *"An Deus sit?"* — не толькі справа інтэлекту, але гэтак жа і справа усёй чалавечай экзістэнцыі. Залежыць ад шмат якіх сітуацый, у каторых чалавек шукае значэння і сэнсу той жа экзістэнцыі. Пытанне аб існаванні Бога найглыбей звязана з *мэтанакіраванасцю чалавечага бытавання.* Гэта не толькі справа розуму, але гэтак жа справа чалавечай волі, больш таго, *справа чалавечага сэрца* (*"Les raisons du coeur"* Блеза Паскаля). Думаю, што няслушна мяркуецца, быццам пазіцыя св. Тамаша перадусім рацыяналістычная. Сапраўды трэба прызнаць рацыю Эцьена Гільсана, калі ён услед за Тамашам кажа, што найцудоўнейшы з Боскіх твораў — розум, але гэта зусім не азначае аднабаковага рацыяналізму. Тамаш — выказнік усяго багацця і складанасці любой створанай істоты, і найперш істоты чалавечай. Нядобра сталася, што мысленне яго адсунута ўбок у паслясаборавую пару, бо яно не перастае быць узорам філасофскага і тэалагічнага універсалізму. У гэтым кантэксце трэба таксама прачытваць яго *quinque viae*, гэта значыць "пяць дарог", што вядуць да адказу на пытанне *"An Deus sit?"*

<...>

## ДОКАЗЫ ІСНАВАННЯ БОГА: ЯШЧЭ АКТУАЛЬНЫЯ?

**5. — ...Відавочна, не падлягае дыскусіі філасофская ці тэарэтычная слушнасць таго, што Святы Айцец пачаў тлумачыць. Але ці мае, аднак жа, гэты род аргументацыі яшчэ якоесьці значэнне для чалавека, каторы сёння ставіць сабе пытанні на тэму Бога, Яго існавання і Яго сутнасці?**

— Сказаў бы, што сёння больш, чым калі-небудзь; з пэўнасцю больш, чым у нядаўніх эпохах. *Пазітывісцкая свядомасць*, што наймагутней развілася на пераломе XIX і XX стагоддзяў, сёння *часткова вяртаецца.* Сучасны чалавек нанава адкрывае *Sakrum*, хоць не заўсёды ўмее назваць яго па імені.

Пазітывізм быў не толькі філасофіяй, не толькі метадалогіяй, быў адной з тых *школаў недаверу*, каторыя дасягнулі росквіту ў навачасную пару. Ці сапраўды чалавек здольны спазнаць нешта больш, чым тое, што бачаць яго вочы і чуюць яго вушы? Ці існуюць якія-небудзь іншыя веды, па-за ведамі непасрэдна эмпірычнымі? Межы чалавечай рацыянальнасці цалкам падпарадкаваныя

пачуццям, унутрана ж кіруюцца законамі матэматыкі, каторыя аказаліся надзвычай прыдатнымі для рацыянальнага ўпарадкавання з'яў, а таксама для кіравання працэсамі тэхнічнага прагрэсу. Калі стаяць на пазітывісцкай паставе, то такія паняцці, як, напрыклад, *Бог ці душа*, папросту не маюць сэнсу. Бо нішто не адпавядае ім у сферы пачуццёвага досведу.

Дык вось менавіта гэтая пастава зараз вяртаецца, прынамсі ў некаторых сферах. Гэтае вяртанне можна канстатаваць, параўнаўшы хоць бы творы ранняга і пазнейшага Людвіга Віттенштэйна, аўстрыйскага філосафа першай паловы нашага стагоддзя.

Зрэшты, ні для кога не адкрыццё, што чалавечае пазнанне ў першай інстанцыі — пачуццёвае. Ніводзін класік філасофіі, ані Платон, ані Арыстоцель, не аспрэчваў гэтага. Пазнаваўчы рэалізм, гэтаксама як так званы рэалізм наіўны, як і рэалізм крытычны, пагаджаецца з тым, што *"nihil est in intellectu, quod prius non fuerit in sensu"* ("у інтэлекце няма нічога, чаго спачатку не было б у пачуццях"). Аднак жа *межы таго "sensus"* не з'яўляюцца выключна сенсуалістычнымі. Вядома ж, што чалавек разрозніваё не толькі фарбы, таны ці формы, але пазнае прадметы *цэласна* — напрыклад, не толькі сукупнасць якасцяў, звязаных з прадметам "чалавек", але таксама чалавека самога ў сабе (то бок чалавека як асобу). Пазнае, такім чынам, *ісціны панад-пачуццёвыя* або, інакш кажучы, *транс-эмпірычныя*. Але нельга сказаць, каб тое, што транс-эмпірычнае, перастала быць эмпірычным.

Гэтак жа сама з пэўнасцю можна казаць аб досведзе чалавека, аб досведзе маральнасці ці досведзе рэлігіі. А як хутка можна казаць аб такіх досведах, дык цяжка запярэчыць, што ў арбіце людскіх досведаў знаходзіцца таксама дабро і зло, знаходзіцца праўда і прыгожае, знаходзіцца таксама і Бог. Сам Бог, несумненна, не з'яўляецца прадметам чалавечай эмпірыі, што па-свойму падкрэслівае і само Святое Пісанне. "Бога ніхто ніколі не бачыў і ўбачыць не можа" (пар. Яна, 1, 18). Калі Бог — прадмет пазнання, то — як вучаць разам Кніга Мудрасці і Ліст да рымлянаў — з'яўляецца ім на падставе досведу бачнага свету, а таксама ў вядомай ступені на падставе ўнутранага досведу самога чалавека. У гэтым месцы Імануіл Кант адыходзіць ад старой дарогі гэтых Кніг і св. Тамаша з Аквіны, абірае шлях досведу этычнага. Чалавек спазнае сябе як істоту этычную, здольную да дзеяння паводле крытэрыяў дабра і зла, а не толькі карыснасці і прыемнасці. Спазнае сябе як істоту рэлігійную, здольную да зносін з Богам. Малітва — пра якую гутарка ішла папярэдне — з'яўляецца ў пэўным сэнсе першым пацвярджэннем гэтай рэальнасці.

Разам з вяртаннем пазітывісцкіх уяўленняў сучасная думка дасягнула поступу ў больш поўным адкрыцці чалавека, вызнаючы паміж іншага каштоўнасць мовы метафарычнай і сімвалічнай. Сучасная герменеўтыка, прысутная, напрыклад, у творах Паўля Рыкёра *(Paula Ricoeura)*, або інакшага кшталту — у Эмануэля Леві *(Emmanuela Levinasa)*, паказвае нам з новага пункту гледжання праўду аб свеце і аб чалавеку.

Наколькі ад гэтага больш поўнага разумення пазітывізм нас аддаляе, а ў пэўным сэнсе цалкам адлучае, настолькі герменеўтыка, засяроджаная на значэнні сімвалічнай мовы, дазваляе нам тую паўнату аднавіць зноў, і нават пэўным чынам яе паглыбіць. Кажучы гэта, канечне ж, не хочам адмаўляць здольнасці розуму да тварэння праўдзівых паняццяў аб Богу і аб ісцінах Веры.

Таму так важная для сучаснай думкі *філасофія рэлігіі*, хоць бы такая, якую распрацоўвае Мірча Эліядэ, а ў Польшчы, напрыклад, арцыбіскуп Мар'ян Яворскі і люблінская школа. *Становімся сведкамі знамянальнага павароту да метафізікі* (філасофіі быцця) *праз інтэгральную антрапалогію*. Нельга памысліць чалавека без таго суаднясення з Богам, каторае для яго канстытуцыйнае. Св. Тамаш называў гэта моваю *філасофіі існавання actus essendi*. Філасофія рэлігіі выяўляе гэта ў катэгорыях антрапалагічнага досведу. У гэты досвед аграмадны ўнёсак зрабілі *філосафы дыялогу*, такія, як Марцін Бубер і ўзгаданы Леві. Тут ўжо мы вельмі блізкія да св. Тамаша, таму што дарога вядзе не столькі праз быццё і існаванне, колькі праз асоб і сустрэчу асоб: "я" і "ты". *Гэта падставовае вымярэнне бытавання чалавека, каторае заўсёды ёсць субытаваннем.*

Адкуль жа навучыліся гэтаму філосафы дыялогу? Навучыліся перадусім з досведу Бібліі. Усё чалавечае жыццё ў штодзённым вымярэнні ёсць "субытаваннем": "ты" і "я", а ў вымярэнні абсалютным і апошнім: "я" і "Ты". Біблейская традыцыя канцэнтруецца вакол гэтага "Ты". Гэта найперш Бог Аўрама, Ісака і Якуба, Бог Праайцоў, а потым Бог Ісуса Хрыста і Апосталаў, Бог нашай веры.

Наша вера глыбока антрапалагічная, глыбока заснавана на субытаванні, на супольнасці люду Божага, а таксама на супольнасці з гэтым Адвечным "Ты". Гэтае субытаванне для нашай юдэахрысціянскай традыцыі вельмі істотнае і паходзіць з ініцыятывы самога Бога. Яно з'яўляецца працягам стварэння і адначасна — як вучыць св. Павел — "адвечным абраннем чалавека ў Слове, каторае ёсць Сынам" (Эф., 1,4).

## АЛЕ ЧАМУ БОГ ХАВАЕЦЦА?

**6. — Такім чынам, Бог існуе. У такім разе ці не справядлівы пратэст многіх, як учора, так і сёння: чаму Бог не выяўіцца больш заўважным чынам? Чаму не дае "датыкальных" і даступных для многіх доказаў свайго існавання? Чаму таямнічая стратэгія Бога нагадвае гульню таго, хто схаваны за стварэннямі? Так, існуюць рацыі, каб верыць; але — як паказвае гістарычны вопыт — для многіх існуюць рацыі, каб сумнявацца альбо нават пярэчыць. Ці ж не было б больш простай рэччу, каб Яго існаванне было болей відочным?**

— Думаю, што тыя пытанні, каторыя пастаўлены, — і якія, зрэшты, столькі асобаў ставяць, — нельга паставіць, беручы за кропку адліку ані св. Тамаша, ані Аўгустына, ані ўсю юдэахрысціянскую традыцыю. Думаю, што гэтыя пытанні растуць хутчэй з іншага грунту. *Гэты грунт чыста рацыяналістычны, характэрны для сучаснай філасофіі.* Гісторыя



гэтай філасофіі распачалася з Дэкарта, каторы мысленне ў пэўным сэнсе адарваў ад усёй экзістэнцыі і звязаў яе з самім розумам: *"Cogito, ergo sum"* — ("Мыслю, значыць існую"). Інакш чым св. Тамаш, для каторага *не мысленне вырашае існаванне, але існаванне мысленне:* мыслю так, як мыслю, таму што з'яўляюся тым, кім з'яўляюся — то бок стварэннем, — і таму што Ён ёсць Тым, кім ёсць, або *нестваральнай Абсалютнай Таямніцай*. Калі б не быў Таямніцай, не патрэбна было б З'яўленне. Дакладней кажучы — *сама-з'яўленне Бога*. Калі б чалавек мог сваім створаным і абмежаваным да памеру ўласнай суб'ектыўнасці розумам перакрочыць усю гэтую адлегласць, што аддзяляе стварэнне ад Творцы, — істоту выпадковую і неабавязковую ад Істоты Абавязковай ("тую, каторай няма, — паводле вядомых слоў, скіраваных праз Хрыста да св. Катажыны Сененьскай, — ад Таго, каторы Ёсць; пар. *Raimondo da Capua, "Legenda maior"*, I, 10, 92), — то пастаўленыя Вамі пытанні маглі б мець рацыю.

... Ваша занепакоенасць выяўляецца ў пытанні: *чаму не стае больш поўных доказаў Яго існавання? Чаму здаецца схаваным, як бы гуляючым са сваім стварэннем? Ці не павінна быць усё нашмат прасцейшым, ці не павінна Яго існаванне быць відочнасцю?* Усе гэтыя пытанні належаць да рэпертуару *сучаснага агнастыцызму*. Агнастыцызм не з'яўляецца атэізмам, не з'яўляецца прынамсі атэізмам праграмным, так як быў ім атэізм марксісцкі, а ў іншай форме атэізм Асветніцтва.

Адначасна пастаўленыя пытанні закранаюць *класічныя вызначэнні Старога і Новага Запавету*. Калі Вы гаворыце пра Бога, каторы хаваецца, дык гаворыце моваю Майсея, які прагнуў убачыць Бога тварам у твар, але змог убачыць Яго толькі "з тылу" (пар. Сх., 33, 23). Ці ж не ўказваецца тут на пазнанне праз стварэнне?

Калі Вы кажаце пра "гульню", дык прыгадваюцца словы кнігі Прытчаў, у якіх указваецца Мудрасць, каторая "гуляе з сынамі чалавечымі на абшары зямлі" (Пр., 8, 31). Ці ж не азначаюць гэтыя словы, што Боская Мудрасць перадаецца стварэнням, але аднаchасна перад імі не адкрываецца ўсёй Божай Таямніцы?

*Сама-з'яўленне Бога звязваецца з Яго "ўчалавечаннем"*. Тут зноў вялікая спакуса, каб словамі Людвіга Фейербаха падвергнуць класічнай рэдукцыі тое, што Боскае, да таго, што чалавечае. Гэта словы Фейербаха, марксісцкі атэізм паходзіць ад яго, але, калі можна так сказаць, — *ut minus sapiens* (пар. 2 Кар., 11, 23), напэўна, выказваю шаленства — *правакацыя паходзіць ад самога Бога*, бо Ён сапраўды стаўся чалавекам у сваім Сыну і нарадзіўся з Дзевы, і менавіта ў гэтым нараджэнні, а канкрэтна праз пакуту, крыж і паўстанне з мёртвых сама-з'яўленне Бога ў гісторыі чалавека дасягнула сваёй найвышэйшай кропкі: з'яўленне невыяўляльнага Бога ў бачнай чалавецкасці Хрыста. Яшчэ напярэдадні пакуты Апосталы прасілі Хрыста: "Пакажы нам Айца" (Яна, 14, 8). Адказ Хрыста застаецца ключавым: "Чаму вы кажаце: "Пакажы нам Айца?" Хіба не верыце, што Я ёсць у Айцу, а Айцец ува мне? (...) Самім учынкам верце (...) Я і Айцец адно ёсць" (пар. Яна, 14, 9. 11; 10, 30).

Словы Хрыста сягаюць вельмі далёка. Маем дачыненне амаль з тою відочнасцю, якой жадае сучасны чалавек. Але відочнасць гэтая не з'яўляецца пазнаннем Бога "тварам у твар" (I Кар., 13, 12), пазнаннем Бога як Бога.

*Але аднак жа* — імкнемся быць бестароннімі ў нашым роздуме — *ці мог Бог пайсці далей у сваёй кандэнсцэндэнцыі, у сваім набліжэнні да чалавека,* да яго чалавечай кандыцыі, да яго пазнавальных магчымасцей? Здаецца, што *пайшоў так далёка, як толькі мог, далей ужо ісці не мог.* Пайшоў у пэўным сэнсе занадта далёка...! Хіба Хрыстос не стаўся "спакусаю для габрэяў і дурнотаю для паганцаў" (I Кар., 1, 23)? Менавіта праз тое, што Бога клікаў Айцом, што гэтага Бога так галасна называў сабою, і пачало складвацца ўражанне, што замоцна...! У пэўным сэнсе чалавек ужо не мог той блізкасці вытрымаць і пачаў пратэставаць.

*Той вялікі пратэст выказваецца спачатку сінагогай, а потым ісламам.* І адны і другія не могуць прыняць Бога, каторы настолькі чалавечы. Пратэстуюць: "Гэта не да твару Богу". "Павінен застацца абсалютна трансцэндэнтны, павінен застацца чыстай Вяршыняй, — вядома ж, Вяршыняй, поўнай міласэрнасці, але ж не настолькі, каб сам заплаціў за правіны стварэння, за яго грэх".

У пэўным сэнсе можна слушна казаць, што Бог занадта аддаліўся ад чалавека ў тым, што найбольш Боскае, што з'яўляецца Яго ўнутраным жыццём; аддаліўся ў сваёй Таямніцы. І не зважаў на тое, што гэтае аддаленне ў пэўнай меры заслоніць Яго ў вачах чалавека, бо чалавек няздольны вытрымаць лішку Таямніцы. Не хоча, каб яна так моцна яго ахінала і прыціскала. Ведае прынамсі, што Бог ёсць тым, у каторым "жывем, рухаемся і існуем" (Дз., 17, 28). Але дзеля чаго гэта павінна быць пацверджана праз Яго смерць і паўстанне з мёртвых? Ды аднак жа св. Павел піша: "Калі Хрыстос не паўстаў з мёртвых, дык дарэмнае і наша навучанне, дарэмная і вера наша" (I Кар., 15, 14).

<...>

## БОГ, КАТОРЫ ЗБАЎЛЯЕ

**8. — ... Чаму "гісторыя збаўлення", як называюць яе хрысціяне, такая складаная? Няўжо сапраўды Бог-Айцец патрабаваў крывавай ахвяры свайго Сына, каб нам даравацъ, каб нас выбавіць?**

— Вашае чарговае пытанне датычыць *гісторыі збаўлення,* найглыбокага сэнсу збаўлення выкупляльнага. Пачнём з разгляду *гісторыі еўрапейскай думкі ўжо пасля Дэкарта.* Чаму высоўваю тут на першы план Дэкарта? Не толькі таму, што ён — пачатак новай эпохі ў гісторыі еўрапейскай думкі, але таксама таму, што гэты адзін з найвялікшых філосафаў, якога дала Францыя, узначаліў *вялікі антрапацэнтрычны паварот у філасофіі.* "Мыслю, значыць існую", як ужо згадвалася раней, — гэта праграма рацыяналізму Новага часу.

Увесь рацыяналізм апошніх стагоддзяў, ці гэта ў форме англасакскай, ці пазней кантыянства, гегельянства і нямецкая філасофія XIX і XX стагоддзяў разам з Гусерлем і Хайдэгерам, — усё гэта ў пэўным сэнсе далейшы працяг і развіццё картэзіянскіх поглядаў. Аўтар *"Meditations philosophiques"* са сваім анталагічным доказам *аддаліў нас ад філасофіі існавання,* а таксама ад традыцыйных шляхоў св. Тамаша. Тыя шляхі вядуць да Бога, каторы з'яўляецца "існаваннем самаісным", *Ipsum esse subsistens.* Дэкарт са сваёй абсалютызацыяй суб'ектыўнай свядомасці вядзе хутчэй у кірунку *"чыстай свядомасці": Абсалюту, каторы ёсць чыстым мысленнем.* Такі Абсалют не з'яўляецца *самаісным існаваннем,* але ў вядомым сэнсе *самаісным мысленнем.* Важная не столькі аб'ектыўная ісціннасць думкі, колькі сам факт з'яўлення чаго-небудзь у чалавечай свядомасці.

Мы знаходзімся на парозе *навачаснага іманентызму і суб'ектывізму.* Апроч таго, Дэкарт азначае пачатак вялікага развіцця дакладных, прыродазнаўчых навук, а таксама навук гуманітарных у іх новай форме. Азначае таксама адыход ад метафізікі і паварот у кірунку філасофіі пазнання. Кант — найвялікшы выказнік менавіта гэтай арыентацыі.

Калі ж з пэўнасцю нельга прыпісаць бацьку сучаснага рацыяналізму адыход ад хрысціянства, то цяжка не бачыць, што ён стварыў клімат, у каторым у навачасную пару такі адыход паступова адбываўся. Праз сто пяцьдзесят гадоў пасля Дэкарта можна сцвярджаць, што *ўсё сутнасна хрысціянскае ў традыцыі еўрапейскай думкі выведзена па-за яе межы.* Пратаганістам паўстае тут асветніцкая эпоха ў Францыі. Асветніцтва — гэта *канчатковае замацаванне чыстага рацыяналізму.* Французская рэвалюцыя падчас тэрору разбурыла алтары, прысвечаныя Хрысту, паваліла прыдарожныя крыжы, замест таго ўвяла культ багіні розуму. На грунце таго культу дэкларавала *свабоду, роўнасць і братэрства.* Праз гэта духоўная і асабліва маральная спадчына хрысціянства была вырвана са свайго евангельскага грунту, на каторы яго трэба зноў вярнуць, каб яно аднавіла цалкам сваю жыццяздольнасць.

Аднак працэс адыходу ад Бога нашых айцоў, ад Бога Ісуса Хрыста, Евангелля і Эўхарыстыі не азначаў развітання з Богам, каторы бытуе па-за светам. Так, гэты *Бог дэістаў быў увесь час прысутны,* прысутнічаў бадай што ў французскіх энцыклапедыстаў, у творах Вальтэра і Жан-Жака Русо, у яшчэ большай ступені — у *"Philosophiae naturalis principia mathematica"* Ісака Ньютана, като-

*(Заканчэнне на стар. 12)*






Гэты выпуск «ЗНО» ілюстраваны калажамі Уладзіміра Бойкі паводле кнігі Юрася Залоскі «Версіі» (выдавецтва «Тэхналогія»)



# ПЕРАКРОЧЫЦЬ ПАРОГ НАДЗЕІ

*(Заканчэнне. Пачатак на стар. 11–12)*

рыя сімвалізуюць пачатак развіцця сучаснай фізікі.

Але той Бог з'яўляецца выключна *Богам паза-светавым*. Бог, прысутны ў свеце, здаваўся непатрэбным для свядомасці, выкшталтаванай на прыродазнаўчым пазнанні свету. Падобным чынам Бог, каторы існуе ў чалавеку, меўся стацца непатрэбным для навачаснай свядомасці, для навачаснай навукі пра чалавека, каторая даследуе свядомасныя і падсвядомасныя механізмы яго развіцця. *Асветніцкі рацыяналізм вынес сапраўднага Бога, менавіта Бога-Збаўцу, па-за дужкі.*

Што гэта азначала? Гэта азначала, што *чалавек павінен жыць, кіруючыся толькі ўласным розумам, так, нібыта Бога не існуе.* Не толькі выпадае пазнаваць свет аб'ектыўна, так, нібыта Бога не існуе, бо вызначэнне існавання Творцы ці Прадбачання ні для чога навуцы не патрэбна, але пры гэтым і дзейнічаць трэба так, нібыта Бога не існуе, гэта значыць так, нібыта Бог не цікавіцца светам. *Асветніцкі рацыяналізм мог прызнаць Бога пазасветавага, балазе гэта толькі непацвярджальная гіпотэза. Абавязковым было вызлімінаваць такога Бога са свету.*

## ЗБАЎЛЕННЕ — У ЦЭНТРЫ ГІСТОРЫІ ЧАЛАВЕЦТВА

**9. — З вялікай увагай слухаю гэты філасофскі выклад. Але якім чынам, аднак жа, ён звязаны з пытаннем, што было зададзена на тэму "гісторыі збаўлення"?**

— Якраз да гэтага хачу дайсці. Праз такога роду праграму мыслення і развіцця асветніцкі рацыяналізм спалучаецца з цэлай *хрысціянскай сатэрыялогіяй,* альбо тэалагічнай рэфлексіяй аб збаўленні (па-грэчаску: *soteria*). "Так (...) Бог палюбіў свет, што Сына свайго Адзінароднага аддаў, каб кожны, хто ў Яго верыць, не загінуў, але меў жыццё вечнае" (Яна, 3, 16). Кожнае слова гэтага Хрыстовага адказу ў размове з Нікадзімам — камень спатыкнення для свядомасці, народжанай з пасылак Асветніцтва, і не толькі французскага, але ангельскага і нямецкага.

Можа, найлепей будзе ўзяцца за нітку пастаўленага пытання і прааналізаваць словы Хрыста ў Евангеллі паводле св. Яна, дзеля таго каб зразумець, у якіх пунктах разыходзімся з тою ментальнасцю *(forma mentis)*. Вы відочна імкнецеся быць прадстаўніком сучасных людзей. Таму пытаецеся: *"Чаму гісторыя збаўлення такая складаная?"*

Па сутнасці яна вельмі простая! І гэтую яе глыбокую прастату і найдзіўную ўнутраную логіку найлягчэй можна паказаць, зыходзячы якраз са слоў Хрыста да Нікадзіма.

Возьмем, такім чынам, першы сказ: *"Бог палюбіў свет"*. Для асветніцкае свядомасці свету непатрэбна любоў Бога. *Свет — самадастатковы*. А таму Бог перадусім не з'яўляецца любоўю. Калі ўжо і існуе, то з'яўляецца самім розумам, розумам адвечна спазнавальным. Затое нікому не патрэбна яго ўмяшанне ўнутр свету, каторы існуе і каторы самадастатковы. Менавіта такі самадастаковы свет, ясны для людскога пазнання, усё больш вольны ад таямніц у выніку навуковай дзейнасці, ва ўсё большай ступені робіцца падпарадкаваным чаалвеку як невычэрпны матэрыял, *чалавеку — дэміургу сучаснай тэхнікі. Менавіта такі свет мае ашчаслівіць чалавека.*

Тым часам Хрыстос кажа Нікадзіму: "Бог так палюбіў свет, што Сына свайго Адзінароднага аддаў, каб чалавек не загінуў (пар. Яна, 3, 16). Гэтымі словамі Хрыстос дае зразумець, што свет не можа быць сродкам канчатковага ашчаслўлення чалавека. Наадварот, можа стацца сродкам яго пагібелі. Той свет, каторы паўстае як вялікая пазнавальная канструкцыя, створаная чалавекам, як прагрэс і цывілізацыя, свет як сучасная сістэма сродкаў масавай інфармацыі, як нічым не абмежаваныя дэмакратычныя свабоды — такі свет нядольны цалкам ашчасліўць чалавека. <...>

Свет нядольны вызваліць чалавека ад цярпення, нядольны ўратаваць ад смерці. *Свет паддадзены "знікомасці"*, як кажа св. Павел у Лісце да рымлянаў. Паддадзены знішчэнню і смяротнасці. Чалавек таксама паддадзены гэтаму ў сваім плоцевым вымярэнні. Бессмяротнасць не дадзена гэтаму свету. Яна можа прыйсці да чалавека толькі ад Бога. Таму Хрыстос кажа пра Боскую любоў, каторая выяўляецца ў пасланні Адзінароднага Сына, дзеля таго каб чалавек "не загінуў, але меў жыццё вечнае" (Яна, 3, 16). *Жыццё вечнае можа быць дадзенае чалавеку толькі праз Бога, можа быць толькі Яго дарам*. Не можа быць дадзена чалавеку праз створаны свет. Стварэнне сталася паддадзеным "марнасці", а чалавек разам са стварэннем (пар. Быц., 8, 20).

"Сын Божы не прыйшоў у свет, каб свет асудзіць, але каб свет збавіць" (пар. Яна, 3, 17). Той свет, які застаў свет Божы, стаючыся чалавекам, заслугоўваў асуджэння, *з рацыі граху,* што здамінаваў у чалавечай гісторыі, пачынаючы ад падзення першых людзей. Але гэта якраз той пункт, з каторым абсалютна не пагаджаецца пасляасветніцкая свядомасць. *Не пагаджаецца менавіта з рэальнасцю граху, у прыватнасці з грэхам першародным.*

Калі падчас апошніх адведзін Польшчы як тэму гамілii [5] выбраў Дэкалог [6] і наказ любові, усе польскія прыхільнікі "асветніцкай праграмы" палічылі гэта дрэнным. Папа, каторы імкнецца пераконваць свет у першародным граху, для гэтай ментальнасці персона *non grata*. Такога тыпу закіды патрапляюць дакладна ў тое, што выказаў св. Ян словамі самога Хрыста. Хрыстос абвяшчаў прыйсце *Святога Духу, каторы "пераканае свет у граху"* (Яна, 16, 8). Што ж іншае можа рабіць Касцёл? Аднак жа даводзіць грэх не азначае асуджаць. "Сын Чалавечы не прыйшоў у свет, каб свет асудзіць, але каб яго збавіць". *Даводзіць грэх — значыць ствараць умовы для збаўлення.* Першая умова збаўлення — усведамленне сваёй грэшнасці, у тым ліку — грэшнасці спадчыннай, а таксама вызнанне яе перад Богам, каторы нічога іншага не чакае, як толькі прыняць тое вызнанне і збавіць чалавека — *збавіць, гэта значыць ахінуць і перапоўніць адкупенчай любоўю,* тою любоўю, каторая заўсёды большая ад якога-кольвек граху. Прыпавесць пра блуднага сына тут — нязменная парадыгма.

Як бачна, гісторыя збаўлення ёсць чымсьці *вельмі простым*. І гэта тая гісторыя, каторая выяўляецца праз усю зямную гісторыю чалавецтва, пачынаючы ад першага Адама, праз з'яўленне другога Адама — Ісуса Хрыста (пар. І Кар., 15, 45), ажно да апошняга спаўнення гісторыі свету ў Богу, калі Бог будзе "ўсім ува ўсім" (І Кар., 15, 28).

Адначасна гэтая гісторыя мае *вымярэнне жыцця кожнага чалавека*. Заключаецца ў вядомай ступені ў прыпавесці пра блуднага сына, а таксама ў словах, каторыя Хрыстос сказаў блудніцы: "Я цябе не асуджаю, — ідзі, але ад гэтай хвілі болей не грашы" (Яна, 8, 11). Гісторыя збаўлення — галоўнае пацвярджэнне аднаго вялікага ўмяшання Бога ў чалавечую гісторыю. Умяшанне тое дасягае свайго кульмінацыйнага пункту ў Пасхальнай Таямніцы — Пакуце, Смерці, Уваскрасенні і Узыходзе на Неба Ісуса — і дапаўняецца Пяцідзесятніцай. Гэтая гісторыя выяўляе збаўчую волю Бога, а таксама акрэслівае *місію Касцёла*. Гэта гісторыя ўсіх людзей і ўсёй чалавечай сям'і, створанай на пачатку, а потым нанава створанай у Хрысце і ў Касцёле. Св. Аўгустын меў глыбокую інтуіцыю гэтай гісторыі, пішучы сваё *"De civitate Dei"* ("Дзяржава Божая"). Але не толькі ён.

*Гісторыя збаўлення ўвесь час нанава паўстае натхняльнікам для інтэрпрэтацыі гісторыі чалавецтва.* Шмат хто з сучасных мысляроў, гісторыкаў, цягнецца сваімі зацікаўленнямі таксама ў бок збаўлення. Бо гэта вельмі захапляльная тэма. Усе пытанні, якія паставіў сабе ІІ Ватыканскі Сабор, у рэшце рэшт прыводзяць да гэтай тэмы.

Гісторыя збаўлення ўздымае не столькі праблему самой гісторыі чалавека, колькі *праблему сэнсу яго існавання*. Яна з'яўляецца гісторыяй і адначасна *метафізікай*. З'яўляецца ў пэўным сэнсе найбольш інтэгральнай тэалогіяй — тэалогіяй судакрананняў Бога і свету. Апошняя саборавая Канстытуцыя аб Касцёле ў сучасным свеце *"Gaudium et spes"* — не што іншае, як толькі актуалізацыя гэтай вялікай тэмы.

<...>

---

* Przekroczyć próg nadziei / Jan Paweł II odpowiada na pytania Vittoria Messoriego. Lublin, 1994.

[1] Амаль усе прыведзеныя ў кнізе цытаты са Св. Пісання не адпавядаюць ані беларускаму, ані польскаму наяўным перакладам Бібліі. Напэўна, Св. Айцец карыстаецца самім духам біблейскага тэксту. — **Заўв. пер.**

[2] Св. Серафім Сароўскі ў праваслаўнай традыцыі. — **Заўв. пер.**

[3] "Настаўнікі" ў каталіцкай традыцыі. — **Заўв. пер.**

[4] Фама Аквінскі ў расейскамоўнай традыцыі перакладу. — **Заўв. пер.**

[5] Адмысловая казань у часе імшы. — **Заўв. пер.**

[6] Дзесяць запаветаў, дадзеных Богам на гары Сінай (гл.Сх, 20).

**Пераклаў з польскай Юрась ЗАЛОСКА**

*Рада "ЗНО": Валянцін Акудовіч (адказны за выпуск), Алесь Разанаў, Ігар Бабкоў, Юрась Барысевіч, Валерка Булгакаў, Сяргей Мінскевіч.*

*Тэксты друкуюцца паводле аўтарскага правапісу.*

РЭЧАІСНАСЦЬ

**Уладзімір МУКУСЕЎ:**

# "НЕ ХЛУСІЦЬ. ВОСЬ І ЎСЁ"

***Вядомы тэлежурналіст Уладзімір Мукусеў прадстаўляў на фестывалі Расійскую асацыяцыю рэгіянальнага тэлебачання "АРТ". Ягоная тэлепраграма пра "Славянскі базар — 95" будзе прадэманстравана ў розных гарадах Расіі.***

***Жонка спадара Мукусева Таццяна адна з кіраўнікоў канцэртнай залы "Расія". Як высветлілася пазней, Таццяна бадай адзіная з прадстаўнікоў класа прадзюсераў, якія заўсёды прысутнічаюць на гэтакіх маштабных мерапрыемствах. Дзіўна, што нікога больш не зацікавілі маладыя таленавітыя спевакі. Спадарыня Таццяна пакінула Віцебск з абяцаннем на права выступлення некаторым артыстам на галоўнай канцэртнай пляцоўцы залы "Расіі".***

***Наш карэспандэнт сустрэўся з Уладзімірам Мукусевым і задаў некалькі пытанняў:***

**—Некалькі гадоў Вы працавалі разам з таленавітым Уладзіславам Лісцевым. Ягоная трагічная смерць стала загадкай...**

—На гэтую сумную тэму трэба гаварыць сур'ёзна і доўга. Улад быў маім падначаленым у праграме "Взгляд". Я не магу сказаць, што быў маім сябрам. Але мы былі блізкімі калегамі. Гісторыя аб тым, што мы мелі творчае разнамоў'е, не адпавядае сапраўднасці. Шчыра кажучы, я канфліктаваў, але толькі не з Уладам, а з Палітбюро ЦК КПСС. Менавіта яно і зрабіла ўсё, каб зліквідаваць "Взгляд". Геній журналіста Улада — унікальная з'ява. Я лічу, што ў першую чаргу ён быў не журналістам, а прафесійным шоу-мэнам, якіх няшмат.

**— На Вашу думку, хто з вядучых зараз працуе на такім узроўні?**

— Леанід Якубовіч. На жаль "Поле чудес" — не аўтарская праграма, а скапіраваная заходнегерманская передача "Кола фартуны". Леаніду бліскуча ўдалося адаптаваць яе ва ўмовах нашай сучаснасці... Дарэчы, мне падабаецца хлопец, які вядзе простую прымітыўную праграму "Угадай мелодию", хаця я з ім незнаёмы. Але ж мне падабаецца ягонае амплуа.

**— Якія праграмы Вам найбольш сімпатычныя на вялікім тэлевізійным экране?**

— "Новости" НТВ, радзей — "Вести". Адзіная праграма, якая вартая ўвагі — "С утра пораньше". І, як гаворыць мая жонка, гэтая перадача яшчэ ні разу не сапсавала настрой.

**— На Вашу думку — "Славянскі базар-95" здольны прадэманстраваць агульнасць ідэй і намаганняў славянскіх народаў, ідэй, якія панавалі спачатку ў арганізатараў фэсту?**

— Безумоўна. У выніку палітычнага суверэнітэту рэспублік былога СССР парваліся эканамічныя і культурныя сувязі. "Славянскі базар" — гэта першая і тонкая нітка, якая павінна пераўтварыцца ў моцны канат культурных сувязей не толькі Беларусі, Расіі і Украіны, але і ўсіх краін СНД.

Гэты фестываль увогуле — першая ластаўка для будучых розных фестываляў, не абавязкова музычных.

**— А якая музыка Вам асабліва падабаецца?**

— Густ мой звычайны. Я люблю "Beatles", "Кіно", "Алиса", "ДДТ", таксама класічную музыку, толькі на жаль, дрэнна яе ведаю.

**— Сярод узгаданых імён папулярных вядучых Вы не назвалі ні аднаго са сваіх паплечнікаў. Вось, напрыклад, Аляксандр Любімаў мае праграму "Один на один" і высокі рэйтынг...**

— Мне гэта вядома, але ж я хачу заўважыць, што "Один на один" — усяго толькі калька маёй перадачы "Контрвью" — скрадзеная частка праграмы "Взгляд". Мяркую, што выпадковасць і неабдуманасць з'яўлення такой плягіяцкай перадачы хутка будзе мець заслужаны вынік. Адчуваю, якім будзе наступнае пытанне, і хачу адразу адказаць: настальгіі па праграме "Взгляд" у мяне няма. Зразумела, у маім творчым жыцці гэтая праграма — чарговы этап. Чаму? Таму, што за маімі плячыма стаялі цыклы перадач: "Адреса молодых", "Мир и молодёжь", "12-й этаж".

**— Вы ўжо проста скончаны журналіст...**

— Для жарту — нядрэнна. Сапраўды, я працую ў сродках масавай інфармацыі больш за 20 гадоў. Пачынаў журналісцкую дзейнасць на ленінградскім тэлебачанні, хаця мая першая адукацыя — рэжысёр, а нядаўна скончыў дыпламатычную акадэмію і атрымаў яшчэ дыплом. Але ж, між іншым, было зроблена сотні праграм, адзнята тысяча метраў стужкі, і я не збіраюся мяняць прафесію журналіста. Невядома чаму, а мяне ў Расіі лічаць журналістам — персонай-нон-грата, не даюць эфіру па цэнтральных каналах TV. Тры гады працаваў у Новасібірску, рабіў там сваю новую версію "Взгляда".

**— Вы займаецеся палітыкай?**

— Так, быў дэпутатам Вярхоўнага Савета Расіі. Таго самага, што быў ганебна расстраляны ў кастрычніку 1993 года. Я доўга перажываў вынікі тых падзей.

**— Дзейнасць каго з сучасных палітыкаў Вам падабаецца?**

— Мне блізкія ідэі Яўлінскага. Хаця сёння, здаецца, ён пастарэў. Перспектыўны палітык Алег Румянцаў.

**— У маскоўскай прэсе прайшла інфармацыя пра Ваша сяброўства са спадаром Нямцовым, губернатарам Ніжняга Ноўгарада...**

— Як кажуць, мы сябруем па-мужчынску. Адпачывалі разам, калі былі, мякка кажучы, дэпутатамі Вярхоўнага Савета. Мне імпануе ягоная палітычная пазіцыя.

**— За каго Вы прагаласавалі б на наступных выбарах прэзідэнта Расіі.**

— Цяпер ні за каго. Лічу, што патэнцыяльныя палітычныя лідэры толькі на падыходзе. Упэўнены, што яшчэ праз гадоў пяць, праз адны прэзідэнцкія выбары да ўлады прыйдуць разумныя, адукаваныя хлопцы. Што тычыцца наступных выбараў, то прэзідэнтам будзе адна з бліжэйшых асоб кола Ельцына. Дзеля гэтага ў іх існуюць сувязі і грошы. Магчыма, новым прэзідэнтам стане Чарнамырдзін. Ведаеце, як жартуюць у Расіі? "Наш дом — Газпром".

**— Дазвольце, калі ласка, вясёленькае пытанне? Чым Вы займаецеся ў вольны час?**

— Фарбую столь, нясу вахту на кухні.

**— Вашае крэда па жыцці?**

— Не хлусіць. Вось і ўсё!

**— Дзякуй за размову.**

**Гутарыў Аляксандр ПУКШАНСКІ**

***Беларусь і свет. Межавыя прасторы вакол нас і ў саміх нас. Над гэтым мы думаем, разважаем штодня, штогадзінна. Што служыць нам перашкодаю ў свабодным руху, у свабодным выбары? І хто адкажа на гэтае пытанне з пытанняў? Пэўная спроба знайсці адказ — і ў інтэрв'ю з вядомым тэлежурналістам Уладзімірам Мукусевым, і ў эсэ "Вятрак незалежнасці".***

# ВЯТРАК НЕЗАЛЕЖНАСЦІ

## (эсэ-спадзяванне)

Колькі б разоў ні падыходзіў да ветранога млына, каторы ўзвышаецца над дудзіцкімі прасторамі, заўсёдна трывожна і неспакойна на душы. І не гэтулькі з-за канкрэтнай дзеі, явы, колькі таму, што праз рэдкае ці то частае мільгаценне крылаў адчуваеш прысутнасць іншых часоў — мінулага і будучыні. Што, хто, якая фізічная істота паядноўваюць усё разам, прымушаюць чалавека-драбнічку быць ніткай, што звязвае ў прасторы стагоддзі...

Мне падаецца, што вятрак бы той вандроўнік, які крочыць з аднае правінцыі да другой, выходжвае ваколіцы, імклівымі крыламі сваімі бароніць люд, вёскі і вёсачкі ад усялякай набрыдзі, навалачы. Чысціць і прасвятляе прастору часін і прастору рэальнасці, прастору сённяшняга дня. Я бясконца веру ветраку-адзінцы. Бо ён, вонкава расхрыстаны і безабаронны як быццам, з'яўляецца самай што ні на ёсць правільнай, выразна праведнай сілай. Магутнасць ніколі не вымяралася (ці мо зрэдку дзеля падману прагрэсу?) маштабамі. Вось і зараз млын уражвае зусім не памерамі, а сваёй паставай, духам магутным. Справа нават зусім не ў ветраку, што стаўся для млына з'явай энергетычнай. Хаця ж ёсць у судакрананні крылаў з ветрам і энергетыка духоўная. Справа, канешне ж, не ў пераўвасабленні энергіі ў дзею. Хутчэй таямніца прыцягальнасці млына ўсё ў той жа магутнасці паставы, поступу. Праўда, агульшчыны ў мной любімага ветрака, у ветрака, які сёння ці не адзіны на ўсю Пухаўшчыну, мала ў параўнанні са славутымі ветранымі млынамі ў гарах Сьера дэ лас Малінас іспанскай правінцыі Ла Манча. Так, з тымі трыццаццю млынамі, з якімі змагаўся герой Сервантэса Дон Кіхот. "...Паглядзі, дружа Санча Панса: вунь там відаць трыццаць, калі не больш, жахлівых веліканаў, — я мяркую распачаць з імі бойку і перабіць іх дашчэнту, трафеі ж, што застануцца, з'явяцца асновай нашага дабрабыту. Гэтая вайна справядлівая: сцерці дурное насенне з твару зямлі — значыць верай і праўдай паслужыць Богу."

Ды хіба Санча рамантык?

— Прабачце, сеньёр, — запярэчыў Санча, — тое, што там віднеецца, зусім не веліканы, а ветраныя млыны, тое, што вы прымаеце за іх рукі, — гэта крылы, — яны круцяцца ад ветру і прыводзяць у рух жорны млына."

На Беларусі сонца не награвала да такога спякотнага рамантызму, якім жыў, у стане якога знаходзіўся Дон Кіхот і працягвае знаходзіцца зараз. У нас усё прасцей, сярмяжней. І млыны раскіданы больш рацыянальна, чымся ў далёкай Іспаніі, дзе на ветраках можна ўгледзець і вежы мініяцюрныя. Ды толькі і ў прастаце, сярмяжнасці — свая высокая рамантыка. Мо нават у адначассе жыццёва-мужная і выключна-эстэтычная. Чытаем у Коласа: "Па адзін і па другі бок вёскі стаялі ветракі, як страшыдлы, шырока раскінуўшы свае крылы." Няўжо як страшыдлы?.. Чаму як страшыдлы?.. Ды ўсё ж: "...шырока раскінуўшы крылы."

Дудзіцкі вятрак — перад вачыма стаіць, здавалася б, і ў сне. Млын дзеючы, увасабляючы спадзяванне на вяртанне, нараджаючы стваральную псіхалогію вяртання. Перавезены з Гомельшчыны, адрынуты, выратаваны ад чарнобыльскай бяды, вятрак усё ж пакінуў за сабою права на ўласную, асаблівую памяць. Крышыць і рушыць да знішчэння меркаваў той млын і камісар, што раскулачваў сям'ю млынара-гаспадара. І хацеў, у адрозненне ад рамантычнага Дон Кіхота, абхітрыць прыроду веліканa. Залез па лесвіцы ўсярэдзіну. Меркаваў сваё джаладзею засадзіць у самае сэрца. Ды выглянуў у акно ветрака, а крылы помсліва падхапілі яго цела. Пранеслі ж крыху менш, чым да самай зямлі. І шмякнулася камісарскае цела на вытаптаную вакол Млына-храма траву. Памёр барацьбіт супраць гаспадарска-зямнога лёсу-вызначэння не адразу. Памёр у цяжкіх пакутах. А млын больш чапаць баяліся. Так і прастаяў вятрак дзесяцігоддзі. Прастаяў нязломна. І ўсё ж прастаяў без працы. Ці вытрымаў ён маўклівую барацьбу? Што можа быць харасцвей, чым вось так маўкліва і бескарысліва назіраць раскідзістым поглядам за пpасторай... Пытанне з пытанняў.



Я ўсё чакаю, што вятрак запрацуе. Што з помніка няскоранага духу, з аб'екта-экспаната пераўтворыцца ў рэч дзейсную, патрэбную звычайным людзям. Мяркую, што, адчуўшы патрэбу ў млыне, зведаўшы пах свежазмолатай мукі, разгледзеўшы пераўтварэнне сонечных зярнятак, людзі паразумнеюць у сваім духоўным развіцці. Апантанасць душэўная не можа нарадзіцца без штуршка матэрыяльнага, фізічнага. Вось і млын дзейсны бачыцца мне як фізічнае вяртанне духоўнасці. Ці магчыма такое сёння?..

Бяда і ў тым, што млын, яго запуск патрабуе таксама духоўнага парыву, спаталення духоўнасці. Як быццам замкнуты круг утварыўся. Чалавеку патрэбны млын. Яму ж, ветраку, патрэбны неардынарны чалавек. Камерцыялізавана-абездухоўленая асоба не разгледзіць характар, душу ветрака, не выратуе яго ад гібення ў часе. Дык што тады? Адкуль магчымы рух? Нарадзі ты, Божа, энерганосьбіта-чалавечка, па сіле і духоўнасці моцы роўнага таму, першапачатковаму, ветраку, які нёс у сабе касмічны зарад. Нарадзі. Іншай спадзяванкі і не відаць. Нарадзі, Божа. Перад млыном страчаным мы ў неспакойным атачэнні думак. Мы проста бяздарныя, абездухоўленыя казючкі.

А яшчэ млын — суддзя. Вялікі, вышэйшы, справядлівы і жорсткі суддзя. За ўсё. За кожны год. За кожную памылку. Праўда, што ж — мерка, якой велічыні пакаранне павінна быць... Што пасля таго суда — праведнага... Што пасля тага суда — фізічнага, як з камісарам-барацьбітом, ці духоўнага, суда, між іншым, для многіх, для ўсіх, для людзей, пазбаўленых элементарнага — шанцу змалоць зерне ў сваёй вёсачцы, у сваім мястэчку, у блізкай ваколіцы?.. Суд можа здарыцца. Пакаранне можа здзейсніцца. А пасля... Бясконцае "пасля"...Не, "пасля" прыходзіць, павінна, абавязана прыйсці зараз. І гэта ёсць дабрыня. Зірніце на млын. Ён прасветлены дабрынёй розных часін. І да млына прыйдзіце з дабрынёй. Тады мо запрацуе фізічнае пераўтварэнне вятрыскі ў энергетычную духоўнасць. У духоўнасць дзейнасці. Толькі тады. З дабрынёй і ў дабрыні.

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ**

У ВАРУНКАХ РЫНКУ

# “БІЗНЕС — ГЭТА ШТОДЗЁННАЯ І ЦЯЖКАЯ СПРАВА”

***Учора журналісцкі лёс звёў мяне з незвычайным чалавекам.***

***Размаўлялі шчыра і пра многае. Які ён — меркаваць вам, чытачы... Такім чынам, Аляксандр ХОХА, кандыдат медыцынскіх навук, адзін са стваральнікаў навукова-вытворчага кааператыва “Біятэст” з Гродна.***

**Сяргей КАНУННІКАЎ:** Зараз дзейнічае шмат акцыянерных таварыстваў, канцэрнаў, фірм, а ў Вас чамусьці кааператыў. Калі і як ён з’явіўся?

**Аляксандр ХОХА:** У 1990 годзе, з лёгкай рукі сёння ўжо нябожчыка акадэміка Астроўскага. Нас тады было ўсяго шэсць чалавек і ўсе мы працавалі ў адной лабараторыі Інстытута біяхіміі ў Гродна, які ўзначальваў Юрый Міхайлавіч. Ён і стварыў гэты інстытут у 1970 годзе. Сёлета акадэміку Астроўскаму споўнілася б 70 гадоў. Гэта быў таленавіты чалавек, вельмі рознабаковы. Навуковец з сусветным імем, эксперт Камітэта па Нобелеўскіх прэміях. Патрыёт Беларусі, паэт. Ён прадбачыў парламенцкі крызіс у нашай дзяржаве. Акадэмік Астроўскі дапамог нам парадай, грашыма, біяхімічнымі наборамі для тэставання. Мы наладзілі методыкі. Так і пачалася справа.

**С.К.:** Цікавае супадзенне. У 1989 годзе я ад імя свайго інжынернага кааператыва падпісваў з акадэмікам Астроўскім дамову аб сумесных распрацоўках. Магчыма, гэта і падштурхнула яго да думкі аб стварэнні Вашага кааператыва. Якія захворванні Вы дыягнастуеце?

**А.Х.:** Мы займаемся дыягностыкай мужчынскага і жаночага бясплоддзя, алергіі, ранняй дыягностыкай цяжарнасці (спраўджванне прагнозу — 98 працэнтаў). Наладжваем усе віды аналізу гармонаў.

**С.К.:** Падчас жорсткай барацьбы за выжыванне ацалела не больш за 5 працэнтаў кааператываў — першапраходцаў у нашых беларускіх рыначных адносінах. Адбор быў вельмі жорсткім. Чым Вы растлумачыце “непатапляльнасць” свайго прадпрыемства?

**А.Х.:** Добрай баявой і фізічнай падрыхтоўкай. *(Смяецца.)* Безумоўна, вельмі дапамагла наша навуковая кваліфікацыя. Мы ўсе — даследчыкі, эксперыментатары. Кругагляд, ініцыятыва, навуковыя сувязі ў Беларусі і за мяжою. Але, перадусім, тое, што ў нас ужо быў свой калектыў аднадумцаў, людзей, што прайшлі жорсткі прафесійны адбор у сценах Інстытута біяхіміі. Мы ішлі ад калектыву, ад зместу. А форма нашага прыватнага прадпрыемства магла быць і іншай. Нам гэта было практычна абыякава.

**С.К.:** Раскажыце трошкі пра тэму Вашай кандыдацкай дысертацыі.

**А.Х.:** “Біясінтэз РНК пры недастатковасці вітаміна $B_1$”.

**С.К.:** Гэта — фундаментальная навука?

**А.Х.:** Так.

**С.К.:** Вітамін $B_1$ — гэта хобі Юрыя Міхайлавіча Астроўскага. Па гэтай тэматыцы ён яшчэ ў 60-я гады напісаў раздзел ва Усесаюзную энцыклапедыю. Хто зараз працягвае займацца гэтай тэмай?

**А.Х.:** У Астроўскага была свая лабараторыя малекулярных механізмаў абмену рэчываў. Яна працуе і сёння. Кіраўніком яе з’яўляецца паплечнік акадэміка Астроўскага доктар біялагічных навук Ларын.

**С.К.:** Што было апошнім, так бы мовіць, навуковым захапленнем Юрыя Міхайлавіча, ягонай “лебядзінай песняю”?

**А.Х.:** Гэта праблемы алкагалізму і знітаваная з ім праблема дэградацыі беларускага народа. Па ініцыятыве Астроўскага ў 1990 годзе ў Гродне быў створаны філіял Усесаюзнага наркалагічнага цэнтра. Узначаліў яго сын акадэміка — Сяргей Астроўскі. Мне было прапанавана ўзначаліць “Лабараторыю эксперыментальнай эндакрыналогіі”. Але ў студзені 1992 года, ужо пасля развалу СССР (Юрыя Міхайлавіча ўжо не было з намі), наш цэнтр спыніў сваё існаванне. І мы ўсе знянацку сталіся “афіцыйна зарэгістраванымі беспрацоўнымі”. Я ўпэўнены: Юрый Міхайлавіч здолеў бы захаваць наркацэнтр у Гродне.

**С.К.:** Цяжка тады давялося?

**А.Х.:** Гэта занадта мякка сказана — трагедыя. І справа нават не ў хлебе надзённым, хаця і дзяцей трэба было неяк гадаваць. Я раптам зразумеў, што на фундаментальнай навуцы прыдзецца паставіць крыж. Але ж гэта мая прафесія, маё прызначэнне. Пятнаццаць гадоў жыцця аддадзена. Гэта справа, у якой я магу быць максімальна карысны людзям. І ўсё раптам скончылася...

**С.К.:** Ці не апусціліся ў Вас тады рукі?

**А.Х.:** Як бачыце, не. Мы зноў пачалі караскацца ўверх, сцяўшы зубы.

**С.К.:** Значыць, не скарыліся і не апусціліся на калені?

**А.Х.:** Так. Наадварот, калектыў наш стаў яшчэ больш адзіным і моцным. Мы разгарнулі новыя накірункі дзейнасці, распачалі гандаль лекамі. Цяжка, павольна, але справа пачала, як кажуць, набіраць абароты.

**С.К.:** Прабачце за гэтае, можа, асабістае пытанне. Калі Вы нарадзіліся?

**А.Х.:** У 1957 годзе.

**С.К.:** А хто Вашыя бацькі?

**А.Х.:** Маці — з Магілёўскай вобласці, з беднай, але таленавітай сям’і. Яе дзядзькі — буйныя военачальнікі. Сярод маіх сваякоў і акадэмік Гутараў. Бацька мой — з Гродзенскай вобласці, з сялян. Бацькі пазнаёміліся падчас вучобы ў Мінскім медыцынскім інстытуце.

**С.К.:** Значыць, Вы — інтэлігент у другім пакаленні і не паспелі яшчэ цалкам страціць жыццяздольнасць сваіх продкаў. Нам усім вельмі пашчасціла, што агонія сацыялізму не расцягнулася яшчэ гадоў на дваццаць: інакш мы дакладна б вымерлі... Якую ВНУ Вы скончылі?

**А.Х.:** Гродзенскі мэдінстытут я скончыў у 1980 годзе. Затым працаваў старшым лабарантам, малодшым навуковым супрацоўнікам... У 1985 годзе абараніў кандыдацкую дысертацыю. Потым быў старшым навуковым супрацоўнікам, загадчыкам лабараторыі. І раптам — абвал...

**С.К.:** І што ж далей?

**А.Х.:** Ліквідуем наступствы катаклізмаў вонкавага асяроддзя.

**С.К.:** Якім чынам?

**А.Х.:** Шляхам падвышэння ўласнага інтэлекту, ступені арганізаванасці сваёй фірмы, пашырэння і ўмацавання дзелавых сувязей. І, безумоўна, прафесіяналізм, што прыходзіць з вопытам. Іншага шляху проста не існуе.

**С.К.:** Чаму? Я знаёмы з навукоўцамі, якія сёння гандлююць на рынку, “ганяюць” аўтамабілі з Нямеччыны...

**А.Х.:** У сённяшняй сітуацыі ёсць і свае “плюсы”. Навука зараз скідвае свой баласт: выпадковыя людзі кінуліся ў бізнес. Але бізнес гэты, у асноўным, неглыбокі. Набыць танней і прадаць даражэй. Як яны раней працавалі ў навуцы, так працуюць і тут. Але ці можна іх асуджаць? Жыць жа неяк трэба...

**С.К.:** Але ж Вы таксама пайшлі з навукі?

**А.Х.:** Так. Пайшоў. У творчы адпачынак. Зараз афармляю сваю доктарскую дысертацыю. Трэба скончыць пачатае і ісці далей.

**С.К.:** Якая ж тэма Вашай дысертацыі?

**А.Х.:** “Малекулярныя механізмы алкагольнага гіпаганадызма”.

**С.К.:** Вытлумачыце гэтую складаную назву, калі можна, на больш простай мове. І колькі словаў, калі ласка, пра практычнае выкарыстанне Вашай працы?

**А.Х.:** Размова ідзе пра зніжэнне функцый полавых залоз чалавека пры сістэматычным ужыванні алкаголю. І зніжэнне гэтае вельмі істотнае...

**С.К.:** Мне падаецца, што гэтая інфармацыя не павінна пакінуць нашых чытачоў абыякавымі. Асабіста я абавязкова прыму да ўвагі Вашую параду... Увогуле, ці ёсць, на Ваш погляд, перспектывы ў беларускай навукі?

**А.Х.:** Фундаментальная навука пакуль што ў вельмі цяжкім стане. А калісьці яна была нашай перавагай перад Захадам. У нас шмат таленавітых навукоўцаў, шмат цікавых ідэй, якія можна і трэба рэалізаваць. Можна ўжо сёння...

**С.К.:** Тут вы ўжо спрачаецеся нават з японцамі. Кадзума Татсісі прапаноўваў у XXI стагоддзі зрабіць стаўку на гандаль “ноу-хау”. Але Вы жывяце, у асноўным, з банкаўскага крэдыту?

**А.Х.:** Не. Гэтыя часы ўжо мінулі. Вопыт даўся нам дарагою цаной: здароўе, нервы... А зараз мы нават аказваем спонсарскую дапамогу.

**С.К.:** Якую менавіта?

**А.Х.:** Мы перадалі бясплатна чатыром шпіталям медыкаменты на дастаткова вялікую суму, параўнальную хіба з дапамогай Беларускага Фонду Сораса па культурніцкіх праграмах. Ёсць і іншыя добрыя справы...

**С.К.:** Прабачце за нясціплае пытанне. На чым Вы “робіце грошы”? Калі не хочаце, можаце не адказваць...

**А.Х.:** Чаму? Тут усё нескладана. Карыстаемся парадай англьскага эканаміста Адама Сміта: бізнес павінен, перш за ўсё, прыносіць карысць народу, людзям, спажыўцу. І, як наступства, ад гэтага будзе карысць і нам асабіста.

**С.К.:** І што гэта за бізнес?

**А.Х.:** Мы арганізавалі дастаўку лекаў з Нямеччыны. Гэта было няпроста. Да прыкладу, розных кантралюючых інстанцый у нас удвая больш за колькасць гандляроў прамысловымі вырабамі. Медыцынскія прэпараты — вельмі спецыфічны тавар. Тут патрабуюцца і глыбокія спецыяльныя веды, і сур’ёзны маркетынг... Калі хто-небудзь з чытачоў пажадае паспрабаваць сябе ў гэтай справе, мы гатовыя сустрэцца, абмеркаваць, дапамагчы пазбегнуць памылак. Мы плануем таксама адчыніць свае філіялы ва ўсіх буйных гарадах Беларусі. Такім чынам — звяртайцеся.

**С.К.:** Спадзяюся, што чытачы зацікавяцца Вашай прапановай. Якія асноўныя прынцыпы Вашай дзейнасці?

**А.Х.:** У нас не існуе тэрміна “мінімальная партыя лекаў”. Свайму хвораму мы абавязкова даставім патрэбны яму медыкамент у любую кропку Беларусі. Нават адзін пачак. Патрэбная толькі заяўка — і мы абавязкова дапаможам вам.

**С.К.:** Я наведаў Вашую аптэку. На маю думку, яна нічым не адрозніваецца ад дзяржаўнай.

**А.Х.:** Не, ёсць пэўныя адрозненні. Напрыклад, у нас у штаце ёсць спецыялісты для кансультавання хворых. Лекі прадаем оптам і ў розніцу. Кошты ў нас — мінімальныя, бо мы працуем без пасрэднікаў, атрымоўваючы тавар непасрэдна з завода-вытворцы. На беларускім рынку лекаў зараз існуе дастаткова жорсткая канкурэнцыя. Некаторыя фірмы, не вытрымліваючы яе, наогул зачыняюцца. Таму мы не можам “накручваць” кошты не столькі з гуманных памкненняў, колькі з-за таго, што наш тавар не будуць набываць.

**С.К.:** Якія ж медыкаменты Вы можаце прапанаваць сваім пакупнікам і якія кошты на іх?

**А.Х.:** Наша мэта — задаволіць Беларусь якаснымі, але таннымі прэпаратамі. Мы прапануем розныя па коштах лекі. Выбар іх вельмі шырокі. Сродкі ад прастуды, супрацьалергічныя, супакойваючыя, сардэчна-сасудзістыя, страўнікава-кішэчныя. Усе яны — з Расіі і Украіны і каштуюць ад 1 да 5 тысяч рублёў. Лекі з Венгрыі, Польшчы, Славеніі — ад 5 да 45 тысяч. Маем таксама прэпараты бельгійскай, французскай, нямецкай, амерыканскай вытворчасці. Іх кошт — ад 5 да 300 тысяч рублёў.

Нам вельмі дарагая рэпутацыя нашай фірмы, і мы імкнемся пазбягаць сумніцельных камерцыйных сувязей. Мы працуем толькі з салíднымі партнёрамі.

**С.К.:** Мабыць, вы часта сустракаецеся з замежнікамі?

**А.Х.:** Так.

**С.К.:** Працуеце з перакладчыкам?

**А.Х.:** Не. Дзякуй роднай школе, якая дала мне дастаткова добрыя веды па англійскай мове.

**С.К.:** Ці ёсць у Вас цяжкасці ў зносінах з замежнымі партнёрамі?

**А.Х.:** Не. Некаторы вопыт я меў ужо падчас сваёй папярэдняй навуковай дзейнасці на міжнародных канферэнцыях, сімпозіумах. З імі ўсё проста. Там — мова грошай. Ім не патрэбныя словы. Як толькі яны ўсведамляюць, што ты набываеш лекі на канкрэтную суму — адразу прыходзіць узаемапаразуменне. Дастаўка тавара — у любую кропку на глобусе.

**С.К.:** Беларусь і бізнес. Якія, на Вашую думку, асаблівасці сённяшняга, “прэзідэнцкага” этапу?

**А.Х.:** Непрадказальнасць улады. І вышэйшай, і мясцовай. Уражанне такое, што ўсё скіравана на канфіскацыю грошай у камерцыйных структур. Любым шляхам. Але ж гэта шлях у нікуды! А што будзе заўтра? Будзе горш, чым пры сацыялізме. “Працэс ужо пайшоў”. Сацыялістычная Беларусь у коле капіталістычнага свету? Абсурд! Мы прыйдзем да Захаду, пазней ці раней.

**С.К.:** А як лепей? Пазней ці раней? Залішняе прыспешванне ў гэтым пытанні таксама небяспечнае... Да прыкладу, Расія з яе чачэнскім крызісам, у Казахстана — нацыянальныя праблемы, на Украіне — рэлігійныя пытанні ды рэзкае падзенне ўзроўню жыцця. Прэзідэнта таксама можна ў нечым зразумець. І ягоныя ўказы з іх наступнай адменай — гэта своеасаблівая дэманстрацыя ўлады: народ згадвае “Who is who?” “Для таго і шчупак у возеры, каб карась не спаў”.

**А.Х.:** Толькі б здароўя хапіла...

**С.К.:** Ці можна задаць Вам пытанне, як кажуць, “у лоб”: як Вы ставіцеся да Прэзідэнта?

**А.Х.:** Пакуль не вызначыўся. А Вы?

**С.К.:** У сувязі з Вашым пытаннем у мяне ўзнікла прапанова: можа, паедзем на радзіму Прэзідэнта, у ягоны саўгас. Пагутарым з паспалітым людам, даведаемся, якім ён быў у нармальным жыцці. Тады і атрымаем дакладную інфармацыю. Дамовіліся?

**А.Х.:** Някепская прапанова. Але ж страшэнны дэфіцыт часу. Але калі ёсць сапраўднае жаданне — арганізуем.

**С.К.:** І апошняе пытанне, дакладней, просьба. Зараз для культуры насталі вельмі цяжкія, неспрыяльныя часіны. Ці магла б Вашая фірма чым-небудзь дапамагчы дзеячам культуры, якія зараз на пенсіі?

**А.Х.:** Добра. Падрыхтуйце спіс медыкаментаў. Думаю, што мы знойдзем магчымасць дапамагчы.

**С.К.:** Дзякуй за размову.

**Гутарку вёў Сяргей КАНУННІКАЎ**

г.Гродна

КУЛУАРЫ

# ТЭАТР, ТЭАТР, ТЭАТР...

***Хто не ведае самую амерыканізаваную праграму БТ "Абібок"? Дык вось, знаёмцеся — вядучая перадачы № 1 Юлія Карусель. Не сакрэт, што гэтая прыгожая дзяўчына — актрыса Нацыянальнага тэатра імя Я.Купалы, і ў яе, як у сапраўднай актрысы, ёсць псеўданім Карусель, а прозвішча па бацьку — Высоцкая.***

**— Юля, як ты трапіла ў праграму Івана Пінігіна "Абібок"?**

— Звычайна, як і ўсе. На працягу майго студэнцкага жыцця ў Беларускай акадэміі мастацтваў нас заўсёды кудынебудзь адбіралі і пераглядалі. Вось так аднойчы прапанавалі і працу ў праграме "Абібок". Грошай вялікіх не зарабляем, але трымаем акцёрскую форму.

**— А здаецца, што ваша "салодкая парачка" аб'ездзіла ўвесь свет, рэкламуючы ўсякія турагенцтвы...**

— Што ты! Мы з Наталляй нікуды не ездзім, бо ніхто не прапаноўвае. Але мне прыемна, калі мая персона выклікае багатыя ўражанні. Зразумела, толькі з прафесійнага боку, як актрысе.

**— Дарэчы, я бачыла некаторыя пастаноўкі вашага курса, і дазволю сабе зрабіць камплімент: ты ўпэўнена трымаешся на сцэне.**

— Дзякуй. Тады я апраўдала спадзяванні бацькоў. Я лічу, што мне ўвогуле пашанцавала. Увесь наш курс Лідзіі Манаковай запрасілі на працу ў тэатр Янкі Купалы.

**— А бацькі твае хто па прафесіі?**

— Тата вайсковец, а маці — жонка вайскоўца.

**— Здагадваюся, што ў цябе па жыцці былі арыенціры ў тэатральным свеце.**

— Зразумела. Мне падабаецца Маргарыта Цярахава. Дарэчы, а вось Мікалай Пінігін — рэжысёр класа "экстра". Мне пашчасціла працаваць з ім, і я хачу падкрэсліць, што ягоныя работы — высокая планка для многіх асаў Мельпамены. Зусім нядаўна наш курс прывёз трэцяе месца за ўдзел у маскоўскім конкурсе студэнцкіх тэатраў. Мы паказвалі спектакль Іанэска "Лысая спявачка".

**— Гэта значыць, што ў тваім жыцці тэатру адводзіцца галоўная роля.**

— Так. Хаця, я ўпэўнена, для жанчыны галоўнае — мець асабістае шчасце. Хіба гэта дзіва, калі хочаш мець радасць сям'і.

**— А багемныя тусоўкі?**

— Я нават і не ведаю, што гэта такое. Але сказаць папраўдзе, дык вельмі хочацца паспрабаваць і такі лад жыцця. Асабліва цяпер, калі маё жыццё набыло канкрэтныя рысы: праца і адпачынак. Тым больш, мне цікавыя розныя сітуацыі, бо мой лёс яшчэ не вызначаны.

**— Усе тая ж высокая планка?**

— Так, але часу хапае, каб перагледзець свае прынцыпы.

**— Ці часта ты гаворыш у рэальным жыцці "не веру!"**

— Не. Я па характары мяккі чалавек. Нават пакутую ад сваёй мяккасці.

**— А як?**

— Вось гэта я раблю не традыцыйна: Вочы ў столь — не пра мяне. Мне трэба кудысьці ісці, рухацца. Абы не стаяць... Хутчэй гэта энергія, чым агрэсія.

**— Юля, ты элегантна выглядаеш на экране. Працуеш над іміджам?**

— Сакрэт у адным — ні ў чым сабе не адмаўляю. Падабаюцца пастэльныя таны і ў адзенні, і ў касметыцы. А паважаю спартыўны стыль у сваім гардэробе.

**— Поспехаў табе.**

**Жанна ВАСАНСКАЯ**

**P.S.** "Perpetuum mobile" праграмы "Абібок" Іван Пінігін вось на самым інтымным месцы запрасіў ітэрв'юера ў кадр. Але нічога, з актрысай Юліяй Высоцкай мы яшчэ пагаворым з нагоды прэм'еры...

**Ж.В.**



# "ЖАНЧЫНА ЗАЎСЁДЫ ТРОШКІ ВЯДЗЬМАРКА..."

***Калі я даведалася, што гэтая прыгожая жанчына Наталля мае два прозвішчы, аднаго мужыка і не збіраецца здрадзіць сваёй адзінай прафесіі, адразу ж падзякавала дажджу. Менавіта ён сапсаваў здымкі праграмы "Абібок" і даў магчымасць вядучай Наталлі Забаве (Башавай) адагрэцца ў фае салона "Мара".***

**— Наталля, калі цябе бачыш па TV, то ўяўляеш вакол цябе світу маладых кароткастрыжаных юнцоў, якія суправаджаюць цябе на "бессаромных" дужых машынах...**

— Але ж! У жыцці я — жонка беспрацоўнага артыста, акрамя гэтага — пяцікурсніца Беларускай акадэміі мастацтваў. А сёння, спадзяюся, ты заўважыла, што ніякай світы пры мне не было.

**— Ты чалавек настрою?**

— Шчыра кажучы, я — актрыса і рэжысёр паводле адукацыі. Відаць, прафесія зрабіла такі адбітак і на характар і на настрой: Дарэчы, на гатаванне ўкраінскага баршчу ў мяне заўсёды ёсць настрой. Вось толькі часу не хапае.

**— А рэцэпт — сакрэт?**

— Звычайныя кулінарныя хітрыкі — асноўны інгрэдыент плюс настрой. Увогуле, боршч — гэта генетыка. Мая маці з Украіны і выдатна гатуе. Праводзіць пэўную частку свайго жыцця на кухні. Аднойчы я захацела зрабіць ёй падарунак, каб вызваліць маці хоць трохі з кулінарнага палону. Перад візітам да дому на вакацыі я купіла некалькі кілаграмаў спагеці. Але здагадалася іх пакласці ў "дыпламат", які сам па сабе раскрываецца. У той дзень шчыльна і тупа ішоў дождж. На праспекце Скарыны я захацела праскочыць вялікую лужыну... Якраз у гэты момант "дыпламат" раскрыўся і спагецці наладзілі рэгату ў цэнтры Мінска. "І што б вы падумалі?" — як пытаюцца ў Адэсе. Я іх доўга збірала.

**— Меркантыльнасць і вар'яцтва — сапраўдныя жаночыя хваробы...**

— Так. А зусім нядаўна для сябе зрабіла адкрыццё: у кожнай жанчыне жыве булгакаўская Маргарыта. На нашай студэнцкай сцэне я пражыла шмат жаночых лёсаў. Але ж толькі раман "Майстар і Маргарыта" ўзбудзіў мае прафесійныя якасці. Адным словам, я маю творчы план — паставіць гэты спектакль. Хаця і тэма ўсім вядомая, я Маргарыту ўбачыла з іншага боку — жанчына заўсёды трошкі вядзьмарка, калі псуюцца межы рэальных падзей.

**— Ты маеш куміраў на сцэне ці экране?**

— Так. У дадзены момант мне падабаюцца ўсе працы амерыканскай зоркі Нікалсана.

**— Гэта значыць, і мужык твой мае падабенства з "зоркай" Галівуда?**

— Часткова. Толькі не знешнія дадзеныя, а хутчэй учынкі і манеры.

**— Дзякуй за размову.**

**Жанна ВАСАНСКАЯ**


КУЛЬТУРА

**ШТОТЫДНЁВАЯ ГРАМАДСКА — АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА выдаецца з кастрычніка 1991года**

Заснавальнік — **Міністэрства культуры і друку Рэспублікі Беларусь**

Адрас рэдакцыі: 220029, МІНСК (МЕНСК), вул. ЧЫЧЭРЫНА, 1. Тэлефон: 76-94-66

Галоўны рэдактар — **Алег КАМІНСКІ**

Рэдакцыйная калегія:
**Валянцін АКУДОВІЧ, Арсен ВАНІЦКІ, Валерый ГЕДРОЙЦ, Уладзімір ГЛЕП, Ніна ЗАГОРСКАЯ, Сяргей ЗАКОННІКАЎ, Вольга ІПАТАВА, Алесь КАРЛЮКЕВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара — адказны сакратар), Людміла КРУШЫНСКАЯ (першы намеснік галоўнага рэдактара), Анатоль КУДРАВЕЦ, Мікола КУПАВА, Валерый СКВАРЦОЎ, Алег ТРУСАЎ, Віктар ТУРАЎ, Васіль ШАРАНГОВІЧ**

Мастацкі рэдактар — **Наталля ОВАД**
Камп'ютэрная вёрстка — **Андрэй ВАШКЕВІЧ**
Карэктар — **Мая КЛІМКОВІЧ**

Рукапісы аб'ёмам больш за адзін аўтарскі аркуш не прымаюцца.
Аўтарскія рукапісы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца.
Меркаванні аўтара могуць не адлавядаць пункту гледжання рэдакцыі.
Аўтары нясуць адказнасць за дакладнасць матэрыялаў.

©

Фармат А3.
Індэкс 63875
Агульны наклад 5000
Замова 3013
Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом Друку».

М. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.

Д. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.


